
„Белавежцы”→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Калядкі ў Беластоку →12

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 04 (2906) Год LVII | Беласток, 22 студзеня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Гайнаўка — цэнтр калядавання

**У мінулым калядавалі ў нас перш за ўсё дзеткі і моладзь. Меншым каляднікам давалі ласункі, старэйшых частавалі святочнымі харчамі. З часам паявілася мода дорыць невялікія грошы. Моладзь за сабраныя сродкі стала заказваць у цэрквах служыць літургіі, у час якіх малілася за здароўе і за ўдалую будучыню. Пасля прынялося калядаванне старэйшых жыхароў вёсак, якія за сабраныя сродкі сталі ўпрыгожваць цэрквы. З часам гэтая мода прыйшла і ў гарады. Апошнім часам з калядкамі вандруюць групы з адлеглых вёсак, гарадоў, а нават з суседніх дзяржаў. У Гайнаўцы можна было спаткаць каляднікаў са сталіцы Беларусі — Мінска, ці з-пад Пачаева на Украіне, якія збіралі сродкі на будову цэркваў.**


Калядны абрад цікава прадставілі „Званочкі” з ГДК

Нашы людзі наогул з радасцю прымаюць каляднікаў і фінансава падтрымліваюць тых, хто ў патрэбе. Спяванне калядак на прыстойным мастацкім узроўні адбываецца таксама ў цэрквах. На Гайнаўшчыне і раней ладзіліся агляды дарослых калядоўшчыкаў, але спяванне калядак на сцэне ў выкананні малады́х каляднікаў пачалося з 1998 года і было новай з’явай, якая станоўча ўспрымаецца людзьмі. У адных асяродках культуры ставіцца націск на вяртанне да традыцый і тады каляднікі выходзяць на сцэну ў зімовай вопратцы, з прыгожа абклеенай звяздой і спяваюць калядкі ў такой манеры, як было ў мінулым. У другіх месцах ставіцца націск на як мага найвышэйшы мастацкі ўзровень выканання калядак, часта з падзелам на галасы, пад кіраўніцтвам дырыжораў. Так дзеецца ў час конкурснага мерапрыемства „Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай”, якое ў гэтым годзе праходзіла 10, 11 і 14 студзеня.

— Арганізуючы сустрэчы з праваслаўнай калядкай мы хочам працягнуць традыцыю калядавання. Стараемся прапагандаваць калядныя традыцыі сярод дзетак і моладзі, якім яны найменш вядомыя. Слухаючы кадядкі, мы знаёмімся з гісторыяй хрысціянства і яго духоўнымі каштоўнасцямі, захоўваючы адначасна мясцовыя традыцыі. Важная таксама прэзентацыя перад публікай вакальных здольнасцей дзетак і моладзі. Цешыць нас, што пастаянна павышаецца мастацкі ўзровень калядных спеваў. Мерапрыемства карыстаецца вялікім зацікаўленнем як з боку выканаўцаў, так і з боку публікі, — заявіў протаіерэй Павел Стэрлінгаў, кіраўнік Дэканальнага інстытута праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы, які ўжо чатыры гады кіруе падрыхтоўкай і арганізацыяй гайнаўскага мерапрыемства.

Якраз сёлета можна гаварыць пра юбілей „Гайнаўскіх сустрэч з праваслаўнай калядкай”, бо ладзяцца яны ў Гайнаўцы пятнаццаты раз, а дзесяты раз арганізуюць іх у галоўным Дэканальны інстытут праваслаўнай культуры і Аб’яднанне „Любіцелі царкоўнай музыкі” з дапамогай Гайнаўскага дома культуры, у канцэртнай зале якога праходзіць калядаванне. Мерапрыемства першых пяць гадоў, пачынаючы з 1998 года, арганізавалася ў актавай, а пасля ў спартыўнай залах Гайнаўскага белліцэя, які першапачаткова разам з Гайнаўскім аддзелам Беларускага грамадска-культурнага таварыства быў арганізатарам „Сустрэч з праваслаўнай калядкай”. Спачатку калядавалі маладыя людзі з Гайнаўкі, а пасля сталі далучацца да іх каляднікі з іншых мясцовасцей Гайнаўскага павета і з-па-за яго. Апошнім часам выступалі каляднікі з Рэспублікі Беларусь і адзін раз моладзь з Украіны.


На высокім мастацкім узроўні спяваў калядкі вакальны калектыў з Бельскага белліцэя

Сёлета конкурсныя слуханні і гала-канцэрт распачыналіся з выступлення дашкольнікаў. У гэтай групе каляднікаў найбольш было дзетак з Гайнаўкі, побач якіх выступілі таксама дашкаляты з Бельска-Падляшскага і Дубін. Хаця наогул наймалодшыя калядоўшчыкі спявалі самастойна, то на сцэну выходзілі настаўніцы для падрыхтавання дзетак да выступу, а некаторыя апекуны або бацькі трымалі на сцэне звязду. Наймалодшыя каляднікі выступілі адважна і займальна, захапілі публіку шчырасцю і адкрытасцю ў час просьбы аб дазволе на калядаванне і падчас віншавання публікі, што ў мінулым было неад’емнай часткай абраду. У час выступаў школьнікаў, гімназістаў і ліцэістаў можна было заўважыць розны ўзровень і розную манеру спеву. Усе каляднікі стараліся як мага найлепш славіць Хрыстове Нараджэнне і за гэта атрымлівалі гарачыя апладысменты ад публікі, сярод якой былі святары, самаўрадаўцы і спонсары, дзякуючы якім можна было ўсім выступаючым (каля 600 асоб у 33 калядных групах) купіць ласункі, а для пераможцаў — вартасныя ўзнагароды.

— Я старалася, каб мае дзеткі паказалі сапраўдную атмасферу традыцыйнага калядавання. Узяла я звязду, з якой калядаваў яшчэ мой бацька Ян Ваўрашук са Збуча і з якой я пасля калядавала. Нават кветка на ёй тая, якую яшчэ мой бацька выканаў. Варта, каб дзеткі ведалі, з якой напружанасцю вясковыя людзі чакалі каляднікаў і што давалі ім у падзяцы за калядаванне, — сказала Вера Масайла, апякунка калектыву „Званочкі” з Гайнаўскага дома культуры, у якім займаюцца гайнаўскія вучні падставовых школ. — Дзеткі ахвотныя выступаць у нашым калектыве і хаця я займаюся з імі на грамадскіх пачатках, то ёсць ахвота надалей працаваць, бо на сцэне відаць рэзультат нашай работы.

Дзеткі, што разам з Верай Масайла займаюцца ў ГДК, апрача спявання калядак многа ўвагі адвялі прэзентацыі цэлага каляднага абраду, з прывітальнымі і развітальнымі словамі і абдароўваннем каляднікаў каўбасой і аўсом. Калядаванне ў традыцыйным стылі запрэзентавалі таксама „Жэўжыкі” з бельскай „тройкі”, роўны і гучны спеў якіх вельмі спадабаўся публіцы

працяг ☞11


9 770546 196000

# Усё о'кей, усё хакей?



Старшыня Еўрапарламента Ежы Бузэк найбольшай паразай сваёй палітыкі публічна назваў праблемы дачынення Еўрасаюза з Беларуссю. Трэба, як кажуць, аддаць яму належнае з-за такой самакрытычнай ацэны, што ў прынцыпе відавочна для ўсіх. Сапраўды, сітуацыя з дэмакратыяй і правамі чалавека ў Беларусі выглядае горш чым два гады таму. Адбываецца далейшы наступ на грамадзянскую супольнасць, у інтэрнэт-прасторы ствараецца цэнзура, больш жорсткім становіцца заканадаўства. Але найбольш драматычны момант — становішча палітычных вязняў. Умовы іх зняволення, пагаршэнне рэжыму ўтрымання адназначна можна класіфікаваць як катаванні. Турма ў Беларусі — не проста спосаб зняволення, а месца прыніжэння чалавечай годнасці, здзеку з палітычных апанентаў рэжыму. У гэтай сітуацыі міжнародная супольнасць шукае новых механізмаў уздзеяння на дзяржаўную ўладу Рэспублікі Беларусь. Той жа Бузэк зноў вярнуўся да пытання правядзення ў Беларусі чэмпіянату свету па хакеі ў 2014 годзе. Яшчэ раней досыць катэгарычна выказалася на гэтую тэму прэзідэнцкая адміністрацыя ЗША, патрабуючы ўжыць санкцыі і пазбавіць цяперашнюю Беларусь права на правядзенне хакейнага форуму. Але з іншага боку вельмі хутка адрэагавала кіраўніцтва Міжнароднай федэрацыі хакея, якое вуснамі свайго кіраўніка, швейцарца Рэне Фазеля заявіла, што гэтае пытанне не падлягае нават разгляду, маўляў „усё о'кей, не змешвайце спорт і палітыку!". Чакаць іншага ад скрозь карумпаваных чыноўнікаў такіх арганізацый як сусветныя федэрацыі хакея (IIHF), ці футбола (FIFA) і не даводзіцца. Тым больш, што і прэцэдэнтаў такога кшталту не зафіксавана. Але паспрабуем глянуць на гэта глыбей.

Тэарэтычна статут Міжнароднай федэрацыі хакея прадугледжвае, што яе Савет можа пазбавіць пэўную краіну права на правядзенне чэмпіянату. Але сярод прычын — чыста тэхнічныя, прыкладам такія, як няздольнасць забяспечыць арганізацыю матчаў ці бяспеку замежных удзельнікаў. Няма пакуль прыкладаў валявога пазбаўлення той ці іншай дзяржавы права на правядзенне спаборніцтваў. Але гісторыя ведае прыклады падтрымкі таталітарных чалавеканенавісніцкіх рэжымаў праз спорт. Так, Гітлеру далі правесці летнія алімпійскія гульні 1936 года і ўзмацніць сваю фашыстоўскую ідэалогію. Вынік вядомы — наступныя гульні цывілізаваны свет здолеў арганізаваць толькі ў 1948 годзе. З больш блізкага часу прыгадваю аргенцінскі чэмпіянат свету па футболе ў 1978 годзе і свае дзіцячыя пачуцці. У СССР тады ўпершыню транслявалі мундыяль у вялікім аб'ёме і мы былі проста зачараваныя стадыёнамі далёкай рамантычнай „сярэбранай" краіны, прадстаўнікі якой і сталі чэмпіёнамі. Тады мы нічога не ведалі, што ў гэты самы час у Аргенціне лютавала дзікая ваенная дыктатура. Іншадумцаў, якіх залічвалі ў апазіцыянеры, падымалі соткамі на самалётах у неба і жывымі скідвалі ў акіян. А тэлевізійная карцінка стварала ілюзію шчаслівай мірнай краіны, якая так умее радавацца поспехам сваіх футбалістаў. Так, спорт, які паводле незабыўнага П'ера да Кубертэна ёсць мір, умацоўваў страшную дыктатуру. Калі ўжо зайшла гутарка пра Кубертэна, то яшчэ ён сам парушыў свае прынцыпы, здзейсніўшы ў сталым веку візіт у Трэці Райх і захапіўшыся гітлераўскай Нямеччынай. Сцвярджаюць, што састарэлы барон папросту стаў ахвярай нацысцкай прапаганды і яго выкарысталі як хлопчыка, але такога факта з біяграфіі заснавальніка алімпійскага руху не выкрасліш.

Нехта можа прыгадаць тут байкот маскоўскай алімпіяды 1980 года, але параўнанне будзе некарэктным. У тым сэнсе, што яго прычынай сталі знешнепалітычныя інтарэсы, а менавіта вайна, якую развязаў СССР у Афганістане. У дадзенай жа сітуацыі чакаць байкоту зусім малаверагодна. Фінансавыя інтарэсы для чыноўнікаў, асабліва еўрапейскіх, куды важней за чалавечыя лёсы.

Пераносу чэмпіянату ў Мінску найбольш узрадаваліся б напэўна... трэнеры і хакеісты зборнай Беларусі, якім лепей выступіць на чужым лёдзе. Бо там адказнасць іншая, перадумоваў жа ўдалага выступу на родных арэнах на важным форуме аніякіх — гэта вам не калядны турнір на прызы прэзідэнта, дзе вынік вядомы заранёў. У гульню „нумар 1" убуханы вялізныя грошы — станоўчых вынікаў жа пакуль мізэр.

Асабіста для мяне важным падаецца тое, каб у сённяшніх палітычных і эканамічных умовах „такі хакей" стаў непатрэбным самім беларусам...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Археалогія аднаго знаёмства. Опус у трох частках. 1



Пачуццё нацыянальнай свядомасці заўсёды адносіцца да канкрэтнай асобы. Яно індывідуалізаванае, апісанае інтымнай і асобнай гісторыяй кожнага чалавека, таму яе ўнутраны аповед мае непадобную да іншых структуру, іншых герояў, іншыя матывы і хаця б з-за гэтага ўхільваецца ад адназначнага вызначэння. Няраз я дражніўся са сваімі знаёмымі, якія атаясамліваюцца з беларускасцю, якраз за тое вызначэнне беларуса, які ад пакаленняў пялёскаецца ў польскай стыхіі, у „не сваёй" культуры і „нетутэйшай" мове. Ці ён паляк з беларускімі каранямі, ці беларус, што закараніўся ў польскасць? Прызнаюся, што кожны раз я выклікаў таго ваўка з лесу. Скандал вісеў на валаску, у паветры аж трашчала ад электрычных разрадаў і... гэта было ўсё. Мой сардэчны знаёмы, Янка Туронак, калісь так гэта пракаментаваў: „Калі ты нават выклічаш ваўка з лесу, то беларусу застаецца толькі ўхапіць яго за каршэнь, бо што ж іншага можа зрабіць? Не спадзявайся, што павалачэ яго на пастронку на сярэдзіну вёскі, каб яго публічна даканаць. Хутчэй зачыніць яго ў каморцы, улялюшчыць яму разоў два калком, а пасля ў сакрэце перад іншымі занясе яму міску супу, каб і яму галодна нанач не было". Ну, што ж, калі б гэта мела быць вызначэнне беларускасці, дык не ведаю прыгажэйшага. Адно не разумею, чаму беларус, замест затаўчы злога ваўка, дарue яму жыццё і яшчэ пашкадуе, што той галодны. Паляк, пэўна, затоўк бы зараз, хаця я не, бо ненавіджу гвалту.

З-за факта, што мяне нарадзілі такія, а не іншыя бацькі, я меў нямала разы ... 

(працяг будзе)

**Міраслаў ГРЫКА**

## Вачыма еўрапейца

# Праваслаўныя паводле TVN



Ужо традыцыйна адзначаў я Божае Нараджэнне падвойна: паводле грыгарыянскага і юліянскага календароў. Дарэчы, заўважыў я не першы раз, што шмат маіх знаёмых у Беластоку святкуе падобна, незалежна ад уласнай канфесіі. Сёлета, аднак, у час праваслаўных свят дайшло да некалькіх здарэнняў, якія мяне раздражнілі. Пачалося ў юліянскую куццю, якая выпадае ў дзень каталіцкага свята Трох Каралёў, дзякуючы чаму праваслаўныя ў Польшчы маюць таксама дзень вольны ад працы. Калі я ў той вечар даядаў рыбу, за сцяной развівалася імпрэзка. Паколькі мае суседзі з-за сцяны (каталікі) калісь разбурылі адну з профільных сценак сваёй кватэры, у мяне цяпер маецца знакамітае падслухоўванне кожнай там гучнай размовы. У той вечар даходзілі да мяне сказы: „W Polsce to mieszkają tylko Polacy". І далей: „A u prawosławnych to dziś niby wigilia". Я падумаў сабе, што нічога, аднак, не змянілася і надалей сярод некаторых верхаводзіць невуцтва ў адносінах да меншасцей. Такая думка прыйшла мне таксама ў галаву пасля таго, як у той самы дзень шаноўны тэлеканал TVN паказаў ранішнюю праграму, прысвечаную праваслаўным калядным звычаям (таксама і куцці). Кухар, які ў той частцы праграмы, што транслявалася з Закапанэ, да праваслаўных з задавальненнем прымянаў назву „Ruscy". Вядучая радасна пыталася: „Czym różni się wigilia prawosławna od naszej, chrześcijańskiej?". Кухар тлумачыў, што ў праваслаўных на куццю ядуць галоўным чынам шынку і не даюць падарункаў. Іншых падобных кур'ёзных выказванняў было больш. Укінуў я на адзін з сайтаў сацыяльнай сеткі інфармацыю аб гэтым абсурдзе. Аказалася, што зрабілі гэта таксама іншыя інтэрнаўты. Разгарэлася дыскусія. Адзін з дыскутантаў прызнаўся: „Не мае права называцца палякам хтось, хто не ёсць католікам. Усе іншыя гэта здраднікі, госці ў нашай краіне. Можа ўжо пара, каб вы пайшлі прэч згэтуль". Былі таксама, на шчасце, іншыя думкі, якія адносіліся непасрэдна да праграмы TVN. „Ясна, што не было там „злой волі". Было няведанне, цемната, мяшчанства разам з падспуднай ксенафобіяй". Пасля на гэтым сайце паявіўся заклік да TVN з патрабаннем выпраўлення недарэчнасцей. Аўтар заклікі пісаў м.інш.: „Такімі паводзінамі спрычыняецеся да пашырання дэзінфармацыі і рэлігійнай неталерантнасці". Пад заклікам падпісалася пайтары тысячы чалавек (між іншым і я). Калі я пісаў гэты тэкст, не было мне нічога вядома аб перапросінах, якія быццам бы паступілі з боку TVN.

На шчасце, у першы дзень юліянскага Раждаства Хрыстовага карэктна павёў сябе прэзідэнт Браніслаў Камароўскі. На прэзідэнцкіх інтэрнэт-старонках (шкада, што не ў публічным тэлебачанні) паявіліся ягоныя пажаданні хрысціянам усходняга абраду. Пералічыў ён грамадзян польскіх веравызнанняў: праваслаўнага, грэка-каталіцкага, Апостальскай армянскай царквы і жыхароў суседнічаючых з Польшчай Украіны, Беларусі і Калінінградскай вобласці. Жадаў міру, уядач ды ўсялякага дабра і надзеі. Асабныя пажаданні паявіліся ў лісце накіраваным праваслаўнаму мітрапаліту варшаўскаму і ўсяе Польшчы Саву. Гэты ліст прэзідэнт закончыў так: „Christos rożdajetsia — sławitie Jeho!".

І тут быццам бы кульмінацыя тэксту. У юліянскі Новы год у Беластоцкім тэлецэнтры лідар гурту „Прымакі" заявіў: „Jesteśmy zespołem mniejszościowym". Я задумаўся, чаму не сказаў ён проста: „Jesteśmy zespołem białoruskim". Так яно ёсць, прынамсі мне здаецца. Але ж калі праваслаўныя ў куццю перад Раждажствам Хрыстовым уплятаюць шынку...

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**




Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# „Белавежы" больш за 53 гады

**Беларускаму літаратурнаму аб'яднанню „Белавежа" да юбілею 55-годдзя засталося паўтара года. Заснавана яно было ў чэрвені 1958 года, гуртуючы пры „Ніве" аўтараў пішучых па-беларуску ў Польшчы. Яднае яно творцаў розных пакаленняў — ад творчых „дзядоў" да „ўнукаў". На апошнім справаздачна-выбарчым сходзе ва ўправу БЛА выбраны Ян Чыквін (старшыня), Віктар Стахвюк (намеснік старшыні), Міра Лукша (сакратар) і Галіна Тврановіч (член управы).**

— На працягу ўсёй нашай гісторыі на творчым рахунку БЛА „Белавежа" назбіралася на сённяшні дзень агулам 228 толькі адных кніжных публікацый, — адзначыў прафесар Ян Чыквін. — Пачатак дае „Рунь" у 1959 годзе, у тым ліку 83 кнігі ў серыі Бібліятэчкі „Белавежы", 15 тамоў „Тэрмапілаў" і 12 нумароў „Году Беларускага". А колькасць паасобных твораў, апублікаваных усімі „белавежцамі" ў аўтарскіх кнігах, на літаратурных старонках, у календарах, альманахах, айчынных і замежных выданнях, а таксама ў перакладах застаецца непалічанай, і па сутнасці ўжо яна непалічальная. Гэтыя факты гавораць адназначна, што беларуская літаратура Польшчы — з'ява невыпадковая, а гістарычна-культуровы вынік глыбокага нацыянальнага ўсведамлення сябе — беларусаў — беларусамі. Творчасць „белавежцаў" з'яўляецца выдатным прыгожым летапісам гэтай укаранёнай нацыянальнай свядомасці, якая безупынна аднаўляецца, безупынна асвяжаецца і з'яўляецца жывой. Гэтая думка рэзка кантрастуе з агульным адчуваннем недахопу чытачоў нашых кніг, недахопу сталага, частага кантакту з чытачамі нашых твораў. Але калі прыгледзімся бліжэй, то гэтая карціна нашага існавання не такая ўжо і змрочная. Таму што, напрыклад, ніхто не можа аспрэчыць, што ў 1960-1970 гадах сотні сваіх чытачоў мелі Алесь Барскі і Віктар Швед. Ад пачатку 1980-х гадоў і па сённяшні дзень меў і мае іх Сакрат Яновіч, а таксама Васіль Петручук як аўтар „Пожні". У свой час вялікай папулярнасцю карысталася тут і ў Беларусі паэзія Надзеі Артымовіч. Здаўна прыгожа ўспрымаліся і надалей успрымаюцца дзіцячыя вершы Віктара Шведа. Мае сваіх чытачоў ужо і проза Міхася Андрасюка. Думаю, што „белавежцам" варта мець у памяці і тое, што многія іхнія творы трапілі ў школьныя праграмы гімназій і ліцэяў. Такім чынам штогод кола нашых чытачоў пакрысе пашыраецца, большае. А калі яшчэ помніць, што творы „белавежцаў" вывучаюць на спецкурсах у беларускіх вышэйшых навучальных установах, ва ўніверсітэтах, то з гэтага неабходна рабіць такія высновы: па-першае — пісьменнікі „Белавежы" здаўна ўключаны ў агульнабеларускі літаратурны працэс і культурна-навуковы абмен каштоўнасцямі, і па-другое — самі пісьменнікі, згуртаваныя ў „Белавежы", павінны мець свядомасць сваёй значнасці ў гэтых працэсах і несці асабістую адказнасць за падараваны ім найперш творчы талент.


Частка сяброў літаб'яднання пасля чарговага справаздачна-выбарчага сходу „Белавежы" (25 верасня 2011 г.). У першым радзе (злева): Кацярына Сянкевіч і Лідзія Маліноўская; у другім: Васіль Петручук, Жэня Мартынюк, Віктар Швед, Галіна Тврановіч, Ян Чыквін, Георгій Валкавыцкі; у апошнім: Віялета Нікіцюк-Пэркоўская, Віктар Стахвюк, Янка Целушэцкі, Уладзімір Саўчук.

Беларуская літаратура ў Польшчы мае свае рысы і адметнасці. Ян Чыквін, паэт і літаратуразнаўца, перакананы:

— Найперш яна характарызуецца тым, што не была саветызаваная, а мела і мае выразна выяўленую нацыянальную адметнасць, здаровы нацыянальны вектар. „Белавежцаў" у першую чаргу яднала і яднае не ідэйна-эстэтычная праграма, а шырока разуметыя нацыянальныя інтарэсы, нацыянальнае ахвярніцтва, абарона роднага, абарона нацыянальнай заходняй крэпасці. З перспектывы пяцідзесяцігоддзя то гэты арыенцір „белавежцаў" бачыцца як асноўны і надалей дзейсны і перспектыўны. Трэба адзначыць прытым, што сама наша літаратурная грамада ўнутрана здаўна разбалансаваная, як у той вядомай байцы Крылова: кожны цягне воз у свой бок. У плане псіхалогіі творчых людзі маюць права быць капрызнымі, непрадказальнымі, некіруемымі. З такімі маем дачыненне ў „Белавежы". Гэта нас усіх добра характарызуе. Аднак для дзейнасці арганізацыі патрэбны развага і цвярозы прагматызм. Ёсць просьба да калег браць пад увагу менавіта дабро аб'яднання, той арганізацыі, якая займаецца сацыяльна-арганізацыйнымі справамі і па статуту не можа ўваходзіць у псіхалогію творчасці.

Пра БЛА „Белавежа", пра пісьменнікаў-„белавежцаў" здаўна ёсць шмат звестак у агульных і літаратурных энцыклапедыях, у рознага тыпу літаратуразнаўчых даведніках і слоўніках, інфарматарах на польскай, рускай, ангельскай, нямецкай і іншых мовах. Ёсць шмат пра „Белавежу" ў інтэрнэце. Прафесар пералічвае:

— Апошнім часам з'явіліся такія новыя кінігі на польскай мове як напрыклад „Słownik pisarzy świata", выдадзены ў Кракаве, „Słownik europejskich kierunków i grup literackich XX wieku" (Навуковае выдавецтва ПВН, Варшава 2009) — і мы там упісаны. З'явілася на польскай мове „Encyklopedia Kresów", выдадзеная ў Кракаве ў 2010 годзе — там таксама „Белавежа" адзначана. У гэтых кнігах досыць шырока, аб'ектыўна гаворыцца пра нашу беларускую творчую арганізацыю як з'яву заўважальную ў шэрагу падобных адметных літаратурна-эстэтычных феноменаў. Неўзабаве выйдзе Мальдзісаў энцыклапедычны даведнік „Сузор'е беларускага памежжа", у якім таксама будзе шмат звестак пра шматлікіх пісьменнікаў-„белавежцаў" і агульны артыкул аб самім літаратурным аб'яднанні. Дзейнасцю „Белавежы" цікавілася ў гэтай кадэнцыі больш чым калі-небудзь беларускае тэлебачанне і радыёвяшчанне. Была выдадзена ў Беластоку кніга на мове эсперанта, у якой апынуліся таксама вершы „белавежцаў". Здаецца больш чым калісь з'явілася аб белавежскіх пісьменніках і ў мінскіх часопісах, такіх як „ЛіМ" — пра Віктара Шведа, Міхася Андрасюка, Яна Чыквіна, у мінскіх часопісах „Нашая вера", „Новы час".

Дзейнасць „Белавежы" асацыюецца з прозвішчамі аўтараў.

— У Беластоку ў гэтай кадэнцыі адбыліся дзве вялікія маніфестацыі беларушчыны, звязаныя з юбілейнымі датамі Віктара Шведа і Алеся Барскага і трэцяя, больш камерная — у актавай зале філалагічнага факультэта, прысвечаная мне. З рознымі сэнсавымі нагрузкамі, усе тры неслі вельмі багатую інфармацыю аб фактычных у сферы культуры гаспадарах гэтай зямлі, пра пакаленнявую пераемнасць, таму што там сустракаюцца ў адным часе пісьменнікі-дзяды з пісьменнікамі-ўнукамі і праўнукамі. Гэтыя маніфестацыі неслі багатую інфармацыю пра грунтоўнасць і прафесійнасць літаратурнай творчасці беларусаў у Польшчы. Апошнім часам была адзначана яшчэ адна гадавіна — 75-годдзе Сакрата Яновіча, крыху ў вузейшым, камерным крузе, тым не менш з інфармацыйным рэзанансам.

Творчая актыўнасць „белавежцаў" утрымалася на папярэдніх паказчыках, калі мець на ўвазе выданні аўтарскіх кніг.

— У 1992-2002 гг. з'явілася 26 кніжак, 2002-2005 гг. — 25 кніжак, 2005-2008 гг. — 28 кніжак, а на працягу трох апошніх гадоў 2008-2011 — 26 кніжак. Не ўсе яны з'явіліся пад грыфам „Белавежы" — у „Ортдруку", Праграмнай радзе тыднёвіка „Ніва", у мінскіх і польскіх выдавецтвах. Вялікую дапамогу ў вырашэнні выдавецкай дзейнасці аказаў нам Культурны цэнтр Беларусі. КЦБ поўнасцю прафінансаваў выданне 13 кніг. Дзякуючы гэтай падтрымцы былі выдадзены першыя кнігі дзвюх нашых маладых паэтэс — Юстыны Каролька і Кацярыны Сянкевіч, першая кніга Лідзіі Маліноўскай. Выхад кожнай кнігі гэта падзея ў жыцці аўтара, але і аб'яднання. Радуюць і абнадзейваюць менавіта маладыя аўтары. Аднак асабліва хочацца падкрэсліць творчае гарэнне і актыўнасць старэйшых „белавежцаў". Гэта ж таксама з'ява выключная, фенаменальная наогул. Нашы старэйшыя калегі гэты феномен падкрэсліваюць. Выхад у апошнія гады кніжак Васіля Петручука, Віктара Шведа, Дзмітрыя Шатыловіча, Уладзіміра Гайдука, Сакрата Яновіча, Алены Анішэўскай павінен быць, асабліва для маладзейшых „белавежцаў", прыкладам тутэйшага беларускага нязломнага духу і характару, прыкладам самаадданасці, ахвяравання свайго таленту нацыянальнай справе. Адзначым, што апрача выдання кніг управа „Белавежы" выпусціла ў свет тры чарговыя нумары свайго тоўстага літаратурна-літаратуразнаўчага часопіса „Тэрмапілы". „Тэрмапілы" маюць сваіх чытачоў найперш у навукова-гуманітарным і літаратурным асяроддзі ў Польшчы, а таксама ў Мінску, Гродне, Брэсце і іншых цэнтрах Беларусі. „Тэрмапілы" ад пачатку вызначаюцца сваёй адкрытасцю для ўсіх існуючых бакоў і па меры сваіх сіл выконваюць функцыю яднання. Невыпадкова на іх старонках друкаваліся і беларускія эміграцыйныя пісьменнікі, якія не маглі або не хацелі друкаваць сваіх твораў у Мінску. Невыпадкова на старонках „Тэрмапілаў" друкаваліся эміграцыйныя пісьменнікі, выдатныя метрапольныя паэты, празаікі, драматургі і — што асабліва трэба падкрэсліць — шматлікія „белавежцы": Юры Баена, Юрка Буйнюк, Юстына Каролька, Жэня Мартынюк, Лідзія Маліноўская, Сакрат Яновіч, Міхась Андрасюк, Міра Лукша, Кацярына Сянкевіч, Галіна Тврановіч, Віктар Стахвюк, Віялета Нікіцюк і многія іншыя. Менавіта на старонках „Тэрмапілаў" праходзяць штогадовыя творчыя сустрэчы. І „белавежцы" на гэтых віртуальна-літаратурных сустрэчах без перабольшвання роўныя сярод роўных. Адным словам „Тэрмапілы" гэта тая агульная літаратурная прастора, дзе няма падзелу на „нашых" і „вашых", „сваіх" і „чужых"...

22 студзеня ва ўніверсітэце (пляц Універсітэцкі, 1; пачатак у 10.30 у зале 71) абдудзецца чарговы семінар „Белавежы", на якім будуць абмяркоўвацца новыя выданні „белавежцаў" — Міхася Андрасюка „Белы конь" (у перакладзе на польскую мову Марціна Рэмбача) і Дзмітрыя Шатыловіча „Забытая паляна" ды новага альманаха „Белавежы".

## Сярод лепшых школ Падляшша — беларускія ліцэі!

Апублікаваны новы рэйтынг сярэдніх навучальных установаў Падляшскага ваяводства. У дзясятцы лепшых — ІІ Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім.

Ён размясціўся на дзевятай пазіцыі. Як адзначае дырэктар ліцэя Андрэй Сцепанюк, гэта вельмі важная адзнака працы навучальнай установы:

— Гэта даволі моцна дапамагае нам у рэкламаванні школы. Калі гаварыць пра агульную інфармацыю пра школу, то трэба падкрэсліць, што мы 9-я школа ў Падляшскім ваяводстве. А да гэтага трэба паглядзець на т. зв. алімпійскі падрэйтынг, дзе мы знаходзімся на 34-м месцы ў Польшчы. Думаю, што гэта вельмі добры вынік. Мы заўсёды падкрэсліваем, што, несумненна, у Бельскім павеце мы лепшая школа і адна з лепшых у ваяводстве. Гэта рэальная ацэнка таго, што робіцца ў школе. Таксама на 12-й пазіцыі ў рэйтынгу — ІІ Агульнаадукацыйны ліцэй з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Дырэктар Бельскага ліцэя Андрэй Сцепанюк адзначае важнасць таго, што сярод лепшых школ Падляшскага ваяводства — беларускія ліцэі:

— Пагледзіце, уся Польшча бачыць, што адзін ліцэй называецца „з беларускай мовай навучання”, а другі — „з дадатковым навучаннем беларускай мовы”. Думаю, што, па-першае, гэта даволі добрая рэклама беларускасці тут, у Польшчы. А па-другое, для нас гэта вялікае задавальненне, што мы як беларусы, як людзі, якія з правінцыяльных ліцэяў могуць штосьці зрабіць і завяваць высокае месца.

Андрэй Сцепанюк кажа, што сакрэт поспеху, між іншым, у супрацы настаўнікаў, адкрытых на новае, і навучэнцаў, якія нечага хочуць дасягнуць у жыцці.

**Яна Запольская, Радыё Рацыя**

## XVIII Алімпіяда па беларускай мове

18-ты раз вучні сярэдніх школ Польшчы прымаюць удзел у Алімпіядзе па беларускай мове. У памяшканні Гайнаўскага ліцэя з дадатковым навучаннем беларускай мовы прайшоў другі этап алімпіяды, у якім прыняло ўдзел 47 ліцэістаў з Беластока, Бельска-Падляшскага ды Гайнаўкі.

На пісьмовай частцы вучні мелі да выбару чатыры тэмы, тры з якіх прысвечаныя творчасці Максіма Танка. Па словах старшыні галоўнага камітэта Алімпіяды па беларускай мове прафесара Аляксандра Баршчэўскага, творчасць Максіма Танка абрана вядучай тэмай алімпіяды невыпадкова.

— Першая прычына — гэта гадавіна з дня нараджэння паэта, а другая — гэта тое, што ён часткай свайго жыцця арганічна звязаны з Польшчай. Да 1939 года ён жыў у Польшчы, вучыўся ў Польшчы, нават сядзеў у турме ў Польшчы. І мне здаецца, што гэта была добрая ідэя ўшанаваць памяць Максіма Танка, абіраючы яго творчасць вядучай у сёлетняй алімпіядзе.

Пасля пісьмовай часткі вучні здаюць таксама вусны іспыт. Вынікі раённага этапу алімпіяды будуць вядомыя пасля праверкі пісьмовых прац. Цэнтральны этап алімпіяды пройдзе 15 сакавіка.

**Наталля Герасімюк, Радыё Рацыя**

Уладзімір СІДАРУК

# ХІ Сесія Рады гміны ў Чаромсе

29 снежня 2011 г. адбылася ХІ сесія Рады гміны ў Чаромсе. З важнейшых спраў, якія ставіліся на сесіі, былі інтэрпеляцыі радных, інфармацыя аб рэалізацыі плацежных абавязацельстваў у 2011 годзе, інфармацыя аб дзейнасці спартыўнага клуба „Калеяж”, Таварыства аматараў народнай культуры і Таварыства „Прыязны транспарт”, прыняцце бюджэту на 2012 год, фінансавага прагнозу на 2012-2020 гады, стратэгіі вырашэння грамадскіх праблем на 2012-2020 гады, цякучыя пытанні ды іншыя. У сесіі ўдзельнічаў ваяводскі радны Мікалай Яноўскі. Пасяджэнне адкрыла старшыня Рады Надзея Суліма. Пасля прыёму прапанаванага парадку дня дала яна голас Мікалаю Яноўскаму. Радны ваяводскага сейміка ў адказ на ранейшыя пастулаты паінфармаваў, што ўжо апрацавана дакументацыя на мадэрнізацыю павятовай дарогі Елянка — Гайнаўка і магчыма, што восенню пачнуцца работы. Дэпутаты шматразова заклікалі павятовыя і ваяводскія ўлады, каб чым хутчэй мадэрнізаваць згаданую дарогу, паколькі яна надта вузкая і стварала пагрозу дарожных аварый. У ходзе дыскусіі, якая абмежавалася да праблемы чыгуначнага транспарту, дэпутаты і жыхары пасёлка крытычна выказваліся аб новым раскладзе язды, браку ранняга цягніка з Беластока ў напрамку Седльцаў і Варшавы, ды частых перамен у раскладзе. Ірэна Шалевіч, напрыклад, прапанавала, каб у ходзе працы над раскладам адказныя начальнікі праводзілі шырокую грамадскую кансультацыю, у выніку чаго чыгуначны транспарт быў бы лепш прыстасаваны да патрэб мясцовага насельніцтва і не выклікаў бы непатрэбнага канфлікту.

Радны Мікалай Самасюк наракаў, што пасля аб’яўлення раскладу Рэгіянальныя перавозы зразу ўводзяць змены, што выклікае закалот.

— Аб’яўлены на год расклад павінен быць паслядоўна рэалізаваны, а не змяняны, — канстатаваў прамоўца. — Маршалкоўская ўправа не павінна дазваляць на такую самаволю...

Радны Сяргей Смык:

— У летнім сезоне шмат грыбнікоў прыязджае ў навакольныя лясы. Чаму ж бы не пусціць дадатковых цягнікоў на лініі Гайнаўка — Седльцы? Для чыгункі быў бы прыбытак, ды і людзі былі б задаволены. Калі Рэгіянальныя перавозы адмаўляюцца ад пагаднення з мясцовым насельніцтвам, дык чаму ж бы не пакарыстацца паслугамі Мазавецкай чыгункі? Гэта была б карысная справа, бо стварала б магчымасць курсіравання цягнікоў на лініі Седльцы — Семяноўка.

Радны ваяводскі пагаджаўся з прамоўцамі, але прад’явіў і свой пункт гледжання.

— Няма аднадумнасці сярод чыгуначнікаў, — канстатаваў Мікалай Яноўскі. — Трэба супольна выступаць і гаварыць адным голасам. Тычыцца гэта прафсаюзных арганізацый. Калі няма аднадумнасці, не можна лічыць на поспех.

У інтэрпеляцыях радны Раман Туркевіч крануў праблему забеспячэння прамасткоў на вуліцы Дзібуа, Славамір Беразовіч — асфальтавання пляцоўкі мясцовага рыначку, а Ежы Сцяхура — незаконнага падпарадкавання прылеглых да насычальні грунтаў „Кватарунковай супольнасці”. На думку апошняга раднага гміна, як саўладальнік, не павінна на гэта пагаджацца.

— Пасылаў я пісьмовую заяву старшыні насычальні, але не атрымаў адказу, — завяршыў выступленне Ежы Сцяхура.

Інфармацыю аб дзейнасці спартклуба „Калеяж” зачытаў радны Януш Ліпінскі, аб дзейнасці Таварыства аматараў народнай культуры — дырэктар Гміннага асяродка культуры Барбара Кузуб-Самасюк і аб дзейнасці Таварыства „Прыязны транспарт” — радны Мікалай Самасюк. Справаздачы не выклікалі дыскусіі, што абазначала аб іхнім адабрэнні.

У галасаванні былі прыняты бюджэт на 2012 г. (14 галасоў за, супраць — 0) і пастанова аб фінансавым прагнозе на 2012-2020 гады (14 за, 1 стрымаўся ад голасу); затым аднадумна 15 галасамі былі прыняты апошнія пастановы, між іншым, аб зменах у бюджэце на 2011 г., план працы Рады гміны на 2012 г., стратэгія вырашэння грамадскіх праблем на 2012-2020 гады ды іншыя.

У адказе на інтэрпеляцыі войт Юры Шыкула заявіў, што праход на мастках на вуліцы Дзібуа будзе забяспечаны, а справа асфальтавання рыначнай пляцоўкі будзе разгледжана напрадвесні.

У вольных пытаннях радны Смык крануў праблему пракладкі водаправода ў Апаку-Вялікую і Пагулянку.

— Калі войт аргументуе, што далучэнне да водаправоднай сеткі гэтых сялетаў надта каштуе, дык можа танней было б пабудаваць артэзіянскі калодзеж. Але нельга пакідаць жыхароў самім сабе.

Шмат рознагалосся ўзнікла пры ацэнцы мясцовай пажарнай каманды ў час тушэння пажару, які ўзнік у пасёлку 23 снежня. Прысутныя жыхары Чаромхі абвінавачвалі пажарнікаў у тым, што прыехалі на месца здарэння без вады, затым не змаглі падключыцца да гідранта. Начальнік пажарнікаў адкідаў абвінавачанні і спасылаўся на аварыю пажарнага абсталявання. Жылы будынак згарэў і сям’я засталася без даху над галавою. Паколькі дом не быў застрахаваны, пагарэльцы не могуць лічыць на кампенсацыю страхавой фірмы. Гміна дала ім часовае памяшканне і прызначыла грашовую дапамогу. Пацярпелыя купілі дзве канапы для спання і пасцель. Ды і чарамшане дапамагаюць пагарэльцам хто чым можа. Іншай справай, якая ўзбударажыла грамадства, аказалася адмяненне рэйкавага аўтобуса ў Высока-Літоўск.

— Калі з фірмай „Інтэрсіці” нельга дамовіцца аб аднаўленні цягніка, дык можа звярнуцца з просьбай да сенатара Владзімежа Цімашэвіча і беластоцкіх парламентарыяў? — прапанаваў радны Беразовіч. — Яны маглі б таксама дапамагчы ў вырашэнні спрадвечнага канфлікту ў справе добраўпарадкавання чыгуначнай маёмасці, бо гэта выклікае шмат непаразуменняў пры рэалізацыі гмінных інвестыцый.

Пасля разгляду апошняга пункту пасяджэння старшыня закрыла ХІ сесію Рады, а войт падзякаваў радным і солтысам за належнае супрацоўніцтва і павіншаваў усіх з наступаючым Новым годам. Віншаванні завяршыліся тостам і бакалам шампанскага.

*Гадавіна Плошчы 19 снежня 2011 г.*

# „З маіх слоў запісана правільна. Мной прачытана”

**«Каля сямі гадзін мы падышлі да Чырвонага касцёла, дзе ўбачылі журналістаў, людзей з партрэтамі палітвязняў і знічкамі. За ўсім гэтым сачылі супрацоўнікі спецыяльных службаў. Нас было трое. Усе непаўналетнія. Мне і яшчэ аднаму хлопцу па 15 год і нашаму сябру 16. Калі мы падышлі да людзей, што стаялі ля касцёла, і запалілі знічы, нас адразу пачалі фатаграфаваць. Праз 20 хвілін падышлі супрацоўнікі ў цывільным, схапілі пад рукі мяне і хлопцаў, і без прад'яўлення пасведчання павалаклі ў мікрааўтобус без дзяржаўных нумароў.**



Там нас чакалі міліцыянт у форме і некалькі чалавек у цывільным. Адзін з іх спытаў: „Ну што, хлопцы, вы матам лаяліся, петарды ўзрывалі ці курылі ў грамадскім месцы?”. Было ўжо тады зразумела, што вінавацяць нас будуць па „традыцыйных” артыкулах. Мы былі першымі затрыманымі. Мы адразу папярэдзілі, што з'яўляемся непаўналетнімі і маем права патэлефанаваць бацькам, на што пачулі: „Заткніцеся і сядзіце ціха, каб не было горш”. Першае, што яны зрабілі, гэта забралі ў нас тэлефоны і выключылі іх. На пытанне куды нас павязуць, быў адказ: „Убачыш”.

Рассадзілі нас па розных кутах, каб не перамаўляліся. Я спрабаваў адчыніць завеску на акне, але ж быў спынены „цывільным”, які ўскочыў і крыкам забараніў мне гэта рабіць. Але праз акно было бачна як „невядомыя” збіваюць і распіхваюць па мікрааўтобусах людзей. Праз некалькі хвілін наш мікрааўтобус быў напоўнены „злоснымі парушальнікамі грамадскага парадку”. Такімі, як і мы. Нас павезлі ў Маскоўскі РАУС. Мы патрапілі туды ў 19:40. Такім чынам, пасля затрымання прайшло ўжо сорак хвілін без званка бацькам. Трапілі мы ў залу, дзе было ўжо ўсё падрыхтавана для нашага „прыёму”: сядзелі міліцыянты з лістамі, на якіх было напісана: „Список задержанных 19 декабря 2011”, куды нас адразу і ўпісалі. Запісвалі ініцыялы, дату і месца нараджэння, месца жыхарства і вучобы. Размаўлялі мы з імі па-беларуску, але запісвалі яны ўсё па-расейску. Нашы неаднаразовыя сцвярджэнні пра тое, што мы непаўналетнія, міліцыянтаў не хвалявалі. Пасля перапісу затрыманых, нас сфатаграфавалі і ўзялі адбіткі пальцаў. Сфатаграфаваўшы з усіх ракурсаў, яны таксама прымусілі мяне адзець каптур, зрабілі фота ў ім. Адбіткі даваць мы адмаўляліся і казалі, што яны не маюць права гэтага рабіць без прысутнасці бацькоў. На гэта яны адказалі, што калі адбіткі мы не здамо, нас бацькам не вернуць і пакінуць на 15 сутак.

У час фатаграфавання і зняцця адбіткаў мы жартавалі і такім чынам падтрымлівалі адзін аднаго. Міліцыянты злаваліся, бо бачылі наш настрой і тое, што мы іх не баімся. Пагражалі пакінуць на „суткі”.

Толькі пасля правядзення ўсіх гэтых працэдур, міліцыянты патэлефанавалі бацькам. Прыйшлі матулі двух хлопцаў, мае бацькі знаходзіліся за мяжой. Нас павялі на складанне пратакола і допыт, вярнулі рэчы. У нас пыталі: „Што рабілі ля касцёла?”. Мы адказалі, што мы вернікі і прыйшлі памаліцца, хто нас затрымаў і чаму, не ведаем. Але ж у пратаколе яны ўсё роўна напісалі сваё: „Выкрыквалі лозунгі „Жыве Беларусь!” і „Свабоду палітвязням!”, актыўна ўдзельнічалі ў масавым мерапрыемстве, лаяліся матам, парушалі грамадскі парадак. Бацькі хлопцаў пад пратаколам напісалі „з пратаколам азнаёмлены, але з яго зместам не згодныя”.

Увесь гэты час вырашаўся мой лёс. Паколькі маіх бацькоў не было, міліцыянтамі было вырашана адправіць мяне ў СІЗА на Акрэсціна. Хлопцаў з бацькамі адпусцілі а 10-й вечара. Я застаўся ў РАУСе ў пакоі з васьмю міліцыянтамі. Мне не дазвалялі тэлефанаваць бацькам. Працягвалі дапытваць без іх прысутнасці. У мяне зноў забралі тэлефон, але я паспеў яго выключыць. Міліцыянт патрабаваў пін-код, але я яму адмовіў. Ён пачаў мяне абражаць, пагражаць і лаяцца матам, казаў: „Дай пин-код, б..дь, а то пожалеешь. Раньше вёл себя нормально, а теперь ведёшь себя как баран, б..дь”. Падышоў да мяне блізка і спытаў яшчэ раз. Ды сказаў, што заблакуе мне тэлефон. Я зноў адмовіў яму. Але за мяне заступіўся другі міліцыянт і спытаў у таго, навошта яму гэта трэба. Той адказаў, што быццам бы я адпраўляў эсэмэсы на „палітычныя сайты”. Што такое ўвогуле „палітычныя сайты” і якія эсэмэс туды можна адсылаць я, канешне, не зразумеў. Пасля гэтага ўсім аддзелам яны палезлі ў інтэрнэт на сайты „Хартыі” і „Свабоды”, дзе знайшлі наша з хлопцамі фота перад чырвоным касцёлам з лампадкамі. Кіраўнік аддзела пачаў лаяцца матам на мяне: „Да вы вообще ох...ли, вы что о себе думаете, чего вы добиваетесь? Пускай ты, б..дь, ещё раз мне попадёшься...” — з чаго было ясна, што калі я яшчэ раз яму траплюся, то ён мяне адправіць у калонію і зробіць усё, каб маіх бацькоў пазбавілі бацькоўскіх правоў. Пасыпаліся абразы ў мой бок і пытанні кшталту „колькі вам за гэта БНФ заплаціў”. Калі я ўказаў на тое, што ў пратаколе запісаны памылковы час затрымання 19:30, а затрымалі нас прыкладна ў 19:00, то да мяне адразу падышлі і сказалі: „Закрой свое еб...о!”. Папярэдзіў, што да бацькоў я магу вярнуцца ў зусім іншым стане. Адзін з іх казаў, што АМАПаўцы, якія пісалі рапарт пра маё затрыманне, пацвердзяць, што затрымалі мяне ў 19:30, а не ў 19:00. Як і тое, што я лаяўся матам і выкрыкваў лозунгі. І нікога не хвалюе, што гэта няпраўда.

Тады я спытаў: „Каго вы абараняеце і каму служыце, ці не павінна міліцыя абараняць закон і служыць народу?”. На што ён адказаў: „Я абараняю закон, а ты — парушальнік закону”. Я спрабаваў даказаць, што закон у нашай краіне пішацца адным чалавекам і што міліцыя павінна быць з народам. А міліцыянт прывёў прыклад: „Калі Лукашэнка выдасць закон, што нельга хадзіць па горадзе ў белых шапках, то я буду вымушаны гэты закон абараняць і караць тых, хто ходзіць у белых шапках, бо гэта мая праца. І я лічу гэта правільным. Не можа будаўнік класці цэглу па-свойму, ён робіць гэта так, як яму кажуць”.

Была ўжо 23:30. Хацелася спаць. Мяне працягвалі дапытваць. У нейкі час, адказваючы на пытанне, я замарудзіў, бо не ведаў, што адказаць. Ды і цяжка ўжо было. Адразу ж я адчуў гвалт міліцыянта, які мяне дапытваў: „Чего мычишь, б..дь?!”. Усе іх пытанні, дзеянні і маўленне суправаджаліся матамі.

Яшчэ ў РАУСе мяне прымусілі зняць шнуркі з красовак, каптур, рэмень, нацельны крыж. Пакінуць крыжык мне яны неаднаразова адмаўлялі. Прымусілі падпісаць пратакол, нягледзячы на тое, што бацькоў яшчэ не было. Пасля двух гадзін здзекаў і допыту, у 12 гадзін ночы мяне адвезлі на Акрэсціна ў суправаджэнні трох міліцыянтаў, дзе дапытвалі яшчэ да другой ночы. Абшукалі паўторна і зноў забралі рэчы. У мяне спрабавалі даведацца навошта мне было патрэбна ісці на гэту акцыю. Выпытвалі пра мае палітычныя погляды і тое, што мне не падабаецца ў сучаснай Беларусі. Склалі яшчэ адзін пратакол. І пасля адвялі ў камеру.

Прачнуўся я ад песні „Give me Freedom”, што было вельмі сімвалічна. Раніцай мяне зноў сфатаграфавалі і знялі адбіткі, патлумачылі тым, што на Акрэсціна свая база дадзеных і яна не агульная з МУСаўскай, таму ім патрэбны мае „пальчыкі”. У 11 гадзін прыехалі бацькі і падпісалі пратаколы. Са зместам яны згодныя не былі. Бацькам распавялі, хто тэлефанаваў мне дадому напярэдадні акцыі і папярэджваў не ісці на яе — супрацоўнікі спецслужбаў. Мяне і хлопцаў чакае суд і камісія па справах непаўналетніх. Бацьку звольнілі з працы...».

* * *

На гэты раз запісана ўсё правільна. Бо пратакол складалі не супрацоўнікі сілавых ведамстваў. А проста, са слоў унука, запісаў яго дзед —

**Лявон КАРПОВІЧ**

## Дарагая „Ніва”!

Даўненька я Табе не пісаў. Відаць, разляніўся. А, можа, я пастарэў? А напэўна — адно і другое. А яшчэ калі размаўляю з сябрамі, што Табе пішуць, дык ужо і зусім не хочацца пісаць: усе яны перайшлі на цяперашнюю тэхніку, карыстаюцца інтэрнэтам! Кажуць: „Толькі напішу, а там у „Ніве” адразу атрымліваюць мой матэрыял”. А што я? Стары, перажыты Мароз, інтэрнэту не маю, пісаць мне трэба рукою. А можа і вам у рэдакцыі гэта не на руку. Цяпер усюды механізацыя, навінкі, а ў мяне — усё старына. А мадэрнасці і духу ў мяне не чуваць. Сродкаў мне не хапае і старасць дакучае. Гэта нічога. „Знай, не скучай, і да сотні дажывай”. Там будзе лепш, таму што лепшага штодзень прыбывае; шкада толькі, што нас тое абмінае... Ды пакіньма наракаць — нараканнем свету не выпрастуеш. Які ён ёсць, такім няхай будзе. Аднаго шкада, што кожны дзень больш непрыемнымі становяцца людзі. Не ўсе. Вось аб адным хачу сказаць. Гэта Пятро Байко! Мы калісьці з ім моцна сябравалі, тады, як часта ў „Ніву” пісалі. Вера Валкавыцкая намі, карэспандэнтамі, упраўляла: гэта быў наш апякун і настаўнік. Тады і я даволі часта пісаў. З Пятром я часта сустракаўся. Быў гэта мой найлепшы сябра. Я перастаў пісаць, Пятро вышэй пайшоў: кніжкі піша і друкуе. Аднак, які ён быў, такім і застаўся. Не забывае пра старыну і сваіх сяброў. Прыслаў мне кніжку, якую выдаў у апошні час: „Z dawnej Białowieży”. Такім чынам я хачу яму падзякаваць. Дзякуй табе, Пятро, за памяць! Няхай новы 2012 год будзе яшчэ лепшы ў Тваім жыцці, няхай плённай будзе Твая праца, а толькі добрае пра Цябе гавораць людзі. А калі сілу маеш і ахвоту — пішы, пішы. Няхай памяць аб Табе астанецца. Бо ўсё загіне і ў памяці сатрэцца, а кніжка — вечна будзе, калі ў добрыя рукі пападзе. Не адзін добрым словам аб Табе адазвецца. Чаго і Табе жадаю, Пятро. А Табе, „Ніва”, жадаю ўсяго што найлепшае ў новым 2012 годзе. Каб Твой тыраж узрастаў, каб Цябе стары і меншы чытаў. Будзь такой папулярнай, як даўней бывала, каб папулярнасць Твая сярод беларусаў не прападала! І пра Грышу Мароза не забывайся. Заўсёды пра Цябе памятаю. Працаўнікам усім здароўя жадаю, і каб заробкі вашы ўзрасталі, і лепшага жыцця Вы дачакалі.

Заставайцеся здаровымі ў новым 2012 годзе! Ваш такі як заўсёды

**Грыша МАРОЗ**
**са Старога Беразова**

## Вясёлыя канікулы

Неўзабаве пачнуцца зімовыя канікулы. Гарадскі асяродак культуры ў Кляшчэлях запрашае школьнікаў на вясёлы адпачынак. З 23 па 28 студзеня будуць арганізаваны заняткі з дзецькамі ў цэнтры культуры ў Кляшчэлях, затым 30 студзеня ў вясковай святліцы ў Палічнай, 31 студзеня ў Дабрывадзе, 1 лютага ў Дашах, 2 лютага ў Тапарках і 3 лютага ў Саках. Працаўнікі ГАК, пачаўшы ад 11 да 15 гадзіны будуць арганізаваць гульні і забавы, пластычныя заняткі, танцавальныя, тэатральныя майстар-класы ды іншыя займальныя мерапрыемствы. Як паінфармаваў дырэктар ГАК прадбачваюцца таксама заняткі па аэробіцы. Заявы можна падаваць да 20 студзеня па тэлефоне (85) 6818054 або асабіста ў Гарадскі асяродак культуры ў Кляшчэлях. **(ус)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)

зорка
для дзяцей і моладзі

# Выступілі ўсе!

*Беласток, 11 студзеня г.г., памяшканне БГКТ, што на вуліцы Варшаўскай у Беластоку.*

Спачатку калядавалі дзеткі. Хоць — не. Яшчэ да таго выступілі настаўніцы і нагадалі пра цуд Нараджэння Госпадняга. Амаль усе звесткі былі пра сямейку Нованароджанага: старога Іосіфа і маці Марыю. Яны выступаюць амаль ва ўсіх калядках. Таксама як Тры Каралі, якія прывандравалі з Усходу, ведзеныя ў пячорку Віфлеемскай зоркай.

— Да свята мы рыхтаваліся ўжо ад кастрычніка, — кажа настаўніца Анна Бабік.

Свята каляд адзначаюць ад пачатку існавання беларускага садка. За ўсе семнаццаць гадоў тут развучылі багаты рэпертуар дзіцячых калядак. Самі дзеткі, а калядавалі аж чатыры групы, праспявалі дзевяць калядак. Адны з іх, як „Учора з вячора” ці „Раждаство Хрыстова” — шырокавядомыя на Падляшшы, іх спяваюць каляднікі ў Бельску, Белавежы ці ў Гарадку. А вось тыя жартоўныя, часта з народным зместам, як „Тупу-тупу, туп каза”, „Каляда-каляда” ці „Саўка ды Грышка” — вядомыя вузкаму кругу энтузіястаў. Добра, каб з гэтага разнавіднага і каляровага рэпертуару ўзнік асобны запіс. Ён, як ранейшыя дзіцячыя кампакт-дыскі са зграданага беларускага прадшколля, шмат у чым дапаможа настаўнікам і навучэнцам у іншых садках.







— Я ў захапленні ад музычных здольнасцей нашых дзяцей, — кажа спадарыня Анна, — і ад іх энтузіязму. У нас як заўсёды многа салістаў, якім хочацца спяваць і выступаць.

Сёння ў беларускім садку больш за сто дзяцей і ў такой прыстойнай грамадзе ёсць з чаго выбіраць.

— Мы падумалі, каб у час сёлетніх Каляд выступілі ўсе, — кажа настаўніца.

Калядны абрад — адзін з найбольш сямейных і рэлігійных абрадаў. Яшчэ ў часы, калі ў школах не дазвалялі крануць рэлігійных традыцый, падрыхтоўкай да калядавання займаліся самі бацькі, або хтосьці са сваякоў. Людзі стараліся перадаць характэрныя свайго вёсцы напевы і пажаданні. Пасля, калі калядніні прыходзілі ў іншую вёску, іх здалёк распазнавалі.

Масавае мерапрыемства, якое атрымалася ў прадшколлі, згубіла той індывідуальны настрой і характар. Хоць усе тут цудоўна калядавалі і славілі цуд Нараджэння Госпадняга, на публіцы з-за сціску не хапіла засяроджанасці. А калі дзеці і бацькі адспявалі што трэба на сцэне, большасць у спешцы раз'ехалася дамоў.

Калі ў дзвярах я спытала ў адной сямейкі як смакавалі ім салодкія дары ад Дзеда Мароза, тыя толькі адмахнуліся рукамі:

— Замнога тут усяго!

Аказалася, яны зусім не прыкмецілі ласункаў. Не памяталі таксама пра што ў сваім павучальным расказе гаварыў самы дастойны госць святачка епіскап супрасльскі Рыгор.

ЗОРКА

## Вершы Віктара Шведа

### Ці бачыў ты аленя?

Спытаў настаўнік Жэню:
— Ці бачыў ты аленя?
Настаўніка ён азадачыў:
— У тэлебачанні я бачыў.

— А не сустрэў аленя ў лесе,
Дзе рогі сярод дрэў павесіў?
— Дык гэта нам не па дарозе,
У лес тэлевізара не возім.

### Недарэчнасць

— Сёння нечакана
Твой сабака, Федзя,
Гнаў нейкага пана
На веласіпедзе.

— Гэта недарэчнасць,
Даражэнькі Коля,
Сабака сардэчны
Не ездзіць ніколі.

## Конкурс пра зіму (4)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Які лес найстарэйшы ў Еўропе?**
*а) Баварскі лес,*
*б) Налібоцкая пушча,*
*в) Белавежская пушча.*

**2. Які звер, жыхар Белавежскай пушчы, апынуўся ў лагатыпе Падляшскага ваяводства?**
*а) алень, б) зубр, в) рысь.*

**3. Дзе праходзілі XV Сутрэчы „Зоркі” (глядзіце сайт-архіў: www.e-zorka.pl)?**
*а) у Гданьску,*
*б) ва ўрочышчы „Падцэрквы”, што ў Белавежскай пушчы,*
*в) у Нарве.*

**4. Як называецца Беларускае літаратурнае аб'яднанне ў Польшчы?**
*а) Гай, б) Марыка, в) Белавежа.*

Адказы дасылайце да 29 студзеня 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні. **Рашэнне каляднага конкурсу № 1:** Нашы продкі трымалі каляднае сенка, госця і ёлку ў хаце ад свята Каляд па трэці дзень свята Трох Каралёў (б). Цягам месяца студзеня на Падляшшы праводзяцца конкурсы калядак (в). Двор Дзеда Мароза ў Белавежскай пушчы — Памесце Дзеда Мароза (в). Наймалодшай лаўрэаткай конкурсу „Дэбют” за 2011 год з'яўляецца Аляксандра Яроцкая з Гарадка (б). Узнагароды — кашулькі з лагатыпам „Нівы” — выйгралі **Наталля Савіцкая** з Бельска-Падляшскага, **Войтэк Куптэль, Моніка Раманюк** з Арэшкава, **Лукаш Марчук** з Нараўкі, **Каміль Барташэвіч** з Дубін. Віншуем!

ЗОРКА

# Мова жывёл

*(падляшская легенда)*

Мы часта паўтараем, што ў вілею Божага Нараджэння жывёлы размаўляюць на чалавечай мове. Падобную легенду запісаў у першай палове XIX ст. этнограф і фалькларыст Люцыян Сяменьскі на нашым Падляшшы. У адрозненні ад агульнай версіі, звяры тут прамаўлялі на *Гагатуху*, напярэдадні Новага года. Нашы людзі баяліся жывёльных бясед больш як агню. Нават калі хто пачуў як гаворыць яго сабака або вол, маўчаў як магіла. Чаму? Вінаватая легенда! Паслухайце...



Адзін селянін, нехта Мікіта ад Кляшчэляў, кожны год на *Гагатуху* начаваў у сваім хляўку, каб падслухаць мову валоў. Трынаццаць гадоў пазней яго мара збылася. Дзесьці за пяць хвілін да поўначы загаварылі два самыя прыгожыя і бадзёрыя валы:

— Шкада мне нашага Мікіткі, — сказаў адзін вол.

— Ну, бедны ён чалавек, — адказаў яму людскім голасам другі вол.

— І найгорш, што ён нам паспаць не дае, — гаварыў першы. — Тут жа выспацца трэба. Заўтра з самога ранння на работу падымуць...

Хаця валы гутарылі чалавечым голасам, селянін нічога не разумеў.

— Пра якую работу яны размаўляюць? — падумаў Мікіта. — Заўтра ж гадавое свята! У гэты дзень усе, і чалавек, і жывёла адпачываюць. Так заведзена ад дзеда-прадзеда.

Яшчэ больш не разумеў селянін спачування жывёлы для яго самога. Ну, проста чыстая камедыя, неразбярыха якаясь. Чалавек павінен спачуваць жывёле, яго быдлячай долі, а не наадварот.

Мікіта злез з вышак і ашаломлены паваloкся ў сваю хату, каб паспаць у чыстай пасцельцы. І вось здарылася тое, пра што ведалі валы. Карацей, у гэтую ноч памёр селянін Мікіта.

Раніцай запрэглі двух самых прыгожых і бадзёрых валоў у сані, паклалі на іх дамавіну з нябожчыкам ды павезлі хаваць на могілкі.

**ЗОРКА**

Давід ЯЦКЕВІЧ, Нараўка

# Бедныя зайцы

*Жыў пад лесам заяц стары,*
*Сялянам моркву ён краў.*
*Жыў на лузе заяц другі,*
*Што капусту ім пад'ядаў.*

*Сяляне на зайцаў зазлавалі*
*І іх у пастку зпапалі!*
*Цяпер морква вялікая расце*
*І капусты ніхто не грызе,*

*Бо зайцаў сяляне не гадавалі,*
*Яны з іх шкуру садралі!*
*Вестка па свеце хутка пайшла*
*І зайца тут ужо ніводнага няма.*

*Сяляне капусту з морквай*
*У бочку шаткуюць,*
*А футра з зайцавых шкураў*
*На зіму рыхтуюць.*

# Музыка з кайфам

## Музычнае перпетуум-мобіле

Ідэя перпетуум-мобіле (лацінскае: perpetuum mobile = які вечна рухаецца) заключаецца ў тым, што машына працуе наспынна без вонкавага прыводу, застаецца ўвесь час у руху. Навука пярэчыць магчымасці існавання такой машыны ў адпаведнасці з прынцыпамі фізікі, але гэта не абазначае, што людское ўяўленне не працуе. Напэўна сотні, калі не тысячы людзей штодзённа задумваюцца над вынаходам перпетуум-мобіле. Тым часам варта заўважыць, што самая ідэя проста інспіруе, таму, напрыклад, новы кінафестываль у Менску, які завяршыўся 18 студзеня, яго арганізатары назвалі „Cinema Perpetuum Mobile". У конкурсе перш за ўсё ацэньваўся погляд на рух, але ў „Музыцы з кайфам" найбольш нас цікавіць рух, але музычны.



Можа здавацца, што пра рух шмат, калі не найбольш у Беларусі, ведае гурт „Дзецідзяцей" — пад такім жа загалоўкам выйшаў альбом гурту ў 2010 годзе. Сапраўды, многа дзеялася на гэтай кружэлцы, але, на жаль, перпетуум-мобіле творчасці „Дзецідзяцей" назваць не можам, бо сам гурт ужо не існуе. Больш шанцаў на поспех у катэгорыі „вечнасці" мае несумненна „Тройца". Такое ўражанне пакінула яна тады, калі выйшаў кліп да песні „Тры янголы", але ў мінулым годзе з'явіўся новы альбом „Зімачка", які падкрэслівае перш за ўсё рух у прыродзе, бо так як сонца коціцца кожны дзень па небасхіле, так і коцяцца поры года, прынамсі ў нашым рэгіёне свету. Зараз з намі зіма, хаця амаль бясснежная і безмарозная, таму „Зімачка" будзе асалодай для любіцеляў снегу, марозу і іншых зімовых атракцыёнаў, перш за ўсё для тых, якім блізкая фольк-музыка ды добрая музыка наогул. Канцэрт „Тройцы" з праграмай „Зімачка" ўжо 25 студзеня ў Менску, затое ў нас, на Беласточчыне, калядны сезон у разгары. Хаця час непасрэднага калядавання ўжо за намі, калі ў першы дзень Каляд па вёсках меншыя і старэйшыя калядніці вандравалі з гвяздамі і калядкамі на вуснах, то зараз можна цешыцца сустрэчай з імі на шматлікіх канцэртах. І гэта сапраўднае перпетуум-мобіле, няспынны пераказ з пакалення ў пакаленне, традыцыя, якая вяртаецца да нас кожны год і дастаўляе столькі энергіі, каб круціцца незалежна ад умоў часу і прыроды.

**i_basovka@o2.pl**

# ~ Галерэя ЗОРКІ ~

1. **Імя і прозвішча:** Магда Цыб (Гімназія ў Белавежы).
2. **Твой любімы прадмет:** руская і беларуская мовы.
3. **У жыцці хачу стаць:** перакладчыкам-лінгвістам.
4. **У сяброў цаню:** вернасць, калі можна пра ўсё сказаць і гэтая асоба стрымае тайну.



Фота Ганны Кандрацюк

5. **Не люблю:** крывадушнасці.
6. **Па-беларуску размаўляю:** з мамай і бабуляй Людмілай.
7. **Кніжка якая мяне захапіла:** «Сустрэча над морам» Ядвігі Карчакоўскай.
8. **Падабаецца мне музыка:** розная.
9. **Твае ўлюбёныя стравы:** рабрынка ў томатным соўсе.
10. **Твой любімы спосаб адпачынку:** люблю дапамагаць маме ў агародзе і спаць.
11. **Калі дарасту хачу жыць:** у Кракаве і ў Белавежы (летам).

# Польска-беларуская крыжаванка № 4

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 52:**

Драбіна, код, аса, смак, свята, сняжынка, лета, крыга, два, ружа. Калядка, нос, до, слых, снег, святар, мяжа, браты, Канада, абаранка.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Раксана Аврчук** з Арэшкава, **Аляксандра Якімюк** з Гайнаўкі, **Кацярына Мучко, Рафал Новік, Наталля Марчук, Паўліна Лаўнічук, Карнэлія Барэчка** з Нараўкі, **Юлек Сямёнчык** з Нарвы, **Дыяна Галёнка, Данель Цэтра, Караліна Кавецкая, Юлія Ваўрасюк, Эва Аврчук** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Siłacz, mocarz | Papryka | | 📖 | Marynarz | | | |
| Miejsce / Car | | | | | | Moc | |
| | | | Cena | Kraj | | Ciocia | |
| Zabawka | | | | | | 📖 | |
| | | | | | | | Jak |
| Perliczka | | Bierz | | | 📖 | 📖 | |
| 📖 | Zajączek | | | | | | |






Тадэвуш КУНЦЭВІЧ

## Мама

Найдараджэйша слова ўсіх,
Усе думаюць таксама,
На цэлым свеце хай гучыць
Гэтае слова — мама.

Вучыла словы гаварыць,
Маліцца як да Бога,
У горшу хвіліну што рабіць,
Не скрыўдзіць каб нікога.

За руку ў школу ты вяла,
У шчоку цалавала.
Што мела, усё мне аддала,
Жыцця не шкадавала.

Заўсёды мела час на ўсё,
Радзюжкі вытыкала,
Ты заглядала ў хлеў, гумно,
Ты есці шыкавала.

Вяртаюсь думкай да таго
Цяпер, калі ўжо дарослы.
Мне шкода толькі аднаго,
Што гэта — у часе прошлым.

## Памяці Тамары Саланевіч

Усім Нараўка знаёма стала,
Дзе ты радзілася, расла
І дзе вучобу пачынала,
У шырокі свет згэтуль пайшла.

Твой аб'ектыў блудзіў усюды,
Ён бачыў нівы і лясы,
Як на Падляшшы жывуць людзі,
Як у полі спеюць каласы.

Як дзеткі радасна спяваюць
І гусі рэчкай паплылі,
Як кветкі ў полі расцвітаюць,
Ляцяць у вырай жураўлі.

Чаму камера твая стала?
І сэрца перастала біць?
Тамара — ты як у ваду ўпала,
Так хутка перастала жыць.



Ян ФЕДЗЮКЕВІЧ

## Зоры

Свецяцца зоры ў нябеснай прасторы
І месяц бы талер блішчыць,
Яны асвятляюць зямныя прасторы,
Каб ноччу нам не блудзіць.

Выйдзі ўвечар, зірні проста ў неба,
Прыглядзься, як зоркі мігцяць,
Цяпла ім хапае, яго больш не трэба,
Ды з холаду быццам дрыжаць.

Здаецца, узяў бы зорачку зняў бы,
У руках абагрэў бы яе,

Іаанна ЧАБАН

# Герой аднаго фестывалю

*Неўзабаве пачнуцца чарговыя фестывальныя выступленні нашых народных спевакоў у рамках найвялікшай масавай беларускай імпрэзы, арганізаванай БГКТ. У апошнія гады Крынкам двойчы пашанцавала паспяхова паказацца на фестывальнай сцэне. Мне здавалася, што гэта была адзіная прысутнасць нашага гарадка на згаданым мерапрыемстве. Вялікай і радаснай неспадзеўкай было маё нядаўняе адкрыццё крынкаўскіх слядоў у гісторыі фестывалю беларускай песні, а менавіта лаўрэата першага выпуску конкурсу.*

*Васьмідзесяцідвухгадовага спадара Анатоля Шыгаловіча ўсе крынчане, незалежна ад канфесіі, асацыююць з выдатным вакальным талентам. Я асабіста маю гонар служыць з ім у крынкаўскім царкоўным хоры, базай і душой якога ён з'яўляецца. Спадар Анатоль не толькі валодае абсалютным слыхам і аксамітным мужчынскім голасам, але таксама ведае ўсе правілы царкоўных богаслужэнняў. Спадар Шыгаловіч з'яўляецца таксама адным са стваральнікаў гонару Крынак — хору „Pogodna Jesień”. На жаль, першая і заадно сённяшняя дырыжорка пані Уладыслава Яновіч ніколі не ўключала ў рэпертуар ніякіх беларускіх песень і толькі па ініцыятыве спадара Шыгаловіча ўдалося ім часам, пры свяце, праспяваць пару праваслаўных калядак. „Pogodna Jesień” пару раз з'ездзіла з канцэртамі ў жывыя беларускія гміны нашага ваяводства, між іншым, запрашалі іх „Цагліню” са Старога Ляўкова, суседні Гарадок. Там, адчуваючы сябе „між сваімі”, не звяртаючы ўвагі на рэпертуарныя прэферэнцыі дырыжоркі і рэпутацыю хору, спадар Анатоль сольна прэзентаваў са сцэны блізкія ягонаму сэрцу беларускія песні. Як сам кажа, хаця вялікую частку калектыву „Pogodna Jesień” састаўляюць свае людзі, яны ніколі не адважыліся падтрымаць нашага героя ў яго ініцыятывах. Прычын тут можна толькі дадумвацца, мабыць, саромеліся альбо баяліся патэнцыяльных непрыемнасцей.*



*У шасцідзесятыя гады пана Шыгаловіча, тады працаўніка славутай крынкаўскай гарбарні, выбралі старшынёй крынкаўскага фабрычнага гуртка БГКТ. Аж цяжка паверыць, што тут дзейнічала беларуская арганізацыя. Апрача таго ў мясцовым Доме культуры рэгулярна адбываліся беларускія мерапрыемствы, прыязджаў Янка Крупа з „Лявоніхай” і іншыя артысты з Беластока, Бельска і з Беларусі. Было перад кім выступаць, нават крыху палякаў прыходзіла. Гэтая сітуацыя кранальна, у некарысць беларусаў, памянялася ў пачатках ваеннага становішча ў Польшчы. Спадар Шыгаловіч з сумам падкрэслівае, што палякі заўсёды неахвотна ставіліся да беларускай справы; падазравае, што віна спачывае на ксяндзах, якія не вучылі прабачаць.*

*Вернемся да плённых шасцідзесятых гадоў. Крынкаўскую гарбарню наведаў тады старшыня Сакольскага аддзела БГКТ (яго імя спадар Анатоль ужо не ў змозе ўспомніць), які шукаў ахвотных выступіць у першым выпуску агляду беларускай песні. Выбар аднагалосна выпаў на нашага героя. Анатоль Шыгаловіч вельмі сур'ёзна падышоў да новага жыццёвага выкліку. Выбраў дзве любімыя песні „Што за месяц, што за ясны” і „Ох, чырвона каліна”. Іх ён навучыўся ад салдат-чырвонаармейцаў, якія, разагнаўшы немцаў у ліпені 1944 года, пабывалі нейкі час у Крынках, развесяляючы людзей перш за ўсё спевамі і аб'язным кінатэатрам. Спадар Анатоль, каб пазбыцца патэнцыяльных памылак у тэкстах ці музыцы, праводзіў кансультацыі з вядомымі крынкаўскімі спявачкамі. Раніцай перад канцэртам ён наведаў свайго беластоцкага шваграа — той, даведаўшыся пра вялікі сцэнічны дэбют Анатоля, наліў яму чарачку для адвагі. Спадар Анатоль ніколі не лічыў сябе фанатам гарэлкападобных напояў, таму на адной чарачцы спыніўся. Фестывальны канцэрт праводзіўся ў памяшканні прафсаюзаў па вуліцы Складоўскай. Зацікаўленне рускімі і беларускімі песнямі было вялікае. Тлумы гледачоў „бісамі” не адпускалі артыстаў са сцэны. Наш герой таксама выклікаў там вялікую авацыю сваім выступленнем. Гучныя дамаганні бісаў яго ўсхваляваалі. Хаця меў у запасе падрыхтаваную рускую песню, на яе выкананне адвагі ўжо яму не хапіла. Прызначылі яму ганаровае другое месца. На жаль, спадар Анатоль не памятае, куды падзелася памятная фестывальная грамата. Можа, выкінулі яе рабочыя, што рабілі генеральны рамонт у крынкаўскай хаце? Вялікі жаль, што пра нашага крынкаўскага лаўрэата зусім забыліся. Ніхто больш не запрасіў яго да ўдзелу ў чарговых конкурсах ці іншых беларускіх музычных мерапрыемствах.*

Васіль ПЕТРУЧУК

# Аб „bohaterskich żołnierzach”

*Раскажу як сённяшнія героі Рэчы Паспалітай паводзілі сябе ў адносінах да грамадзян непалякаў, а аповед будзе пра вёску Верхавіны Краскоўскага павета.*

*Вясною 1945 года, калі фронт адышоў далей на захад, тут узрасла актыўнасць груповак (атрадаў) Нацыянальных узброеных сіл — Narodowych Sił Zbrojnych. „Патрыёты” NSZ у сваёй дзейнасці мусілі з чагось жыць, дык рабавалі вёскі ўкраінскія, але і польскія, забіраючы харчы, інвентар, і нават ружжо АК — Арміі Краёвай.*

*У маі 1945 года камендант інспектарата АК „Zamość” даў прыказ сваім падуладным, каб гэтыя рэквізіцыі трактаваць як паспаліты бандытызм. Адносіны сталі напружанымі, і амаль не дайшло да бітвы паміж абедзвюма арганізацыямі. Таксама ў маі 1945 года Баявая гатоўнасць акцыі (PAS) маючы некалькі ўзброеных атрадаў, запланавала пацыфікацыю вёскі Верхавіны, дзе жылі ўкраінцы і некалькі польскіх сем'яў.*

*Паводле рапарта аднаго з камандзіраў, паручніка „Рамана” (Раман Ярашынскі), „жыхары гэтай вёскі гэта адны канфідэнты, якія ўсё рабілі, каб знішчыць як найбольш палякаў”.*

*Камандаванне НУС (NSZ), каб прадухіліць трагедыю „мардавання палякаў”, выдала прыказ свайму атраду, каб жыхароў вёскі Верхавіны выбіць усіх! Групоўка атрада NSZ пад камандаваннем „Шэрага” („Szarego”) — капітана Мечыслава Паздэрскага, пайшла ў напрамку вёскі Верхавіны 5 чэрвеня 1945 года.*

*Яўген Дудэк („Сікора”) з атрада „Зэмсты” падчас допыту сказаў 26 жніўня 1946 года ў Павятовым ведамстве УБ у Холме, што яны „мелі прыказ ліквідаваць украінцаў, забіваючы без выключэння старых, малых і забраць усю маёмасць”.*

*Больш за дзесяць дзён перад пацыфікацыяй, 22 мая 1945 года, па загадзе „Шэрага”, атрад „Рамана” напаў на слабасцярожны савецкі аэрадром, замардаваў двух пілотаў стрэлам у патыліцу. Вымантаваўшы з самалётаў „Іл” дзве хуткастрэльныя гарматкі, самалёт і пілотаў спалілі.*

*6 чэрвеня 1945 года атрад лікам каля 300 асоб, пад камандаваннем „Шэрага” прыйшоў у вёску Верхавіны. НСЗоўцы былі апранутыя ў мундзіры Войска Польскага, маршыравалі са спевам і кветкамі, прышпіленымі да мундзіраў. Народ быў пераканаць, што гэта ідуць рэгулярныя часці ВП, — прывітаў іх спевам, кветкамі і пачастункам. Раптам жаўнеры пачалі правяраць дакументы і забіваць украінцаў. Яўген Дудэк-„Сікора” між іншым сказаў: „Не ведаю, колькі наш атрад забіў, але там, дзе „Костэк” (Вацлаў Рыбак), то на адным панадворку ляжала дваццаць пару трупаў, пераважна дарослых, а „Бялы” (праўдападобна Вацлаў Ліс), распраўляўся з дзецьмі. „Костэк” страляў толькі з віса, а „Бялы” з ППШа.”*

*Мар'ян Ліпчак, „Донец”, даў паказанне: „Па загадзе „Шэрага” стралялі без разбору ад найменшых дзетак да старэчаў! На нашым адрэзку забілі да 80 чалавек, найбольш зліквідаваў атрад „Шэрага”.*

*Станіслаў Няворай з Майдана-Загарадынскага ўспамінаў: „Патрыёты” з Нацыянальных узброеных сіл прыказвалі малалеткам, каб мардавалі. У атрадзе „Шэрага” служыла двух пятнаццацігодкаў. Адзін з іх пасля хваліўся жонцы Нявораяа, што разрубаў двух старэчаў рыдлёўкай”. У вёсцы Верхавіны зверска замардавалі 194 асобы. У тым ліку — 45 мужчын, 65 дзетак ва ўзросце ад двух тыдняў да 11 гадоў, а апошнія гэта жанчыны і дзеці вышэй 11 гадоў!*

*Пасля гэтай разні зрабавана было ўсё дабро: вопратка, бялізна, абутак, гаспадарскія прылады, пасцель, коні, каровы, свінні. Вывезлі ўсё ў напрамку вёскі Сялец. На вестку пра напад і разню з горада Холма выехала група з бяспекі ў 60 асоб і 40 падхаружнжых афіцэрскай школы артылерыі і каля дваццаці міліцыянтаў. Курсанты афіцэрскай школы выехалі браніраваным транспарцёрам з кулямётам. Адступаючая група „Шэрага” сарганізавала паспяховую засаду: функцыянераў бяспекі і міліцыі пабілі, а вайсковых узялі ў палон.*

*Рушыла пагоня ў 160 асоб на грузавых самаходах — аперацыйная група савецкага 98 палка пагранічнікаў НКВД, былых франтавікоў Міжчасава. Атрады „Шэрага” дайшлі да вёскі Гута, дзе арганізаваўся быў шумны народны фэст. Раніцай 10 чэрвеня група пагоні неспадзявана ўехала ў вёску Гута і праз некалькі гадзін бітвы з бандытамі, якія не спадзяваліся атакі, разграміла іх. Загінула каля 200 членаў НСЗ, у гэтым ліку „Шэры” і большасць камандзіраў, некалькі асоб трапіла ў палон, а рэшта разбеглася па суседніх лясах. Адбілі большасць награбленага дабра, у тым ліку два грузавыя самаходы, 44 фурманкі, 93 кані, 65 кароў і 110 штук ружжа.*

*Палітычная паліцыя ІНП неахвотна аб гэтым гаворыць, бо ж гэта пярэчыць называнню іх героямі ў барацьбе з камунізмам. Відавочна, у ІНП далей абавязвае прынцып уведзены былым дырэктарам Бюро адукацыі доктарам Янам Жарыным, што трэба маўчаць аб злачынствах выкананых на ўкраінскім народзе, а пастаянна прыпамінаць аб ахвярах на польскім баку.*



# У Мар’янова

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

**Чорная-Беластоцкая гэта прыхаваны ў цэнтры Кнышынскай пушчы горад паміж Беластокам і Саколкай. Ягоная гісторыя падобная на мінулае Гайнаўкі. Даўнейшая вёска пачала набіраць размах у час Першай сусветнай вайны. Так як і ў выпадку Гайнаўкі палівам для разгону гэтай мясцовасці ў гарадскі ранг стала драўніна. Немцы і там пабудавалі сістэму вузкакалеек для вывазу лясной сыравіны, адно толькі размах дрэваапрацоўчай прамысловасці не быў там так буйны, як у Гайнаўцы. Чарговы стымул Чорная атрымала ў пасляваенны час, калі там быў пабудаваны металаапрацоўчы завод, які афіцыйна выпрабляў трактарныя прычэпы і халадзільнікі, а зусім неафіцыйна займаўся г.зв. спецвытворчасцю. Рашыў я тады заглянуць у бок колішняга сакрэтнага завода.**

У бок даўняга прамысловага комплексу была пракладзена сістэма чыгуначных ветак, аднак зараз асталіся толькі пустыя сляды ад яе — рэйкі зняты з усіх адгалінаванняў. Думаў я таксама пабачыць, ці высакавольтная лінія не абрываецца недзе ў лесе на подступах да завода, але не ўдалося мне занадта ў той лес пранікнуць з-за балоцістага грунту. З боку фабрыкі ўсё ж такі чутны быў гул машын, а шыльды паказвалі на тое, што там яшчэ металаапрацоўка не замерла, аднак абмежавана, здаецца, яна да паверхневага наслаення ахоўных пластоў. На месцах, дзе чыгуначныя веткі праходзілі цераз брамы на фабрычную тэрыторыю, цяпер тыя брамы наглуха закрытыя, а побач іх ржавеюць ахоўныя дазорныя вышкі. Прайшоўся я крыху побач шчыльнай агароджы колішняй спецфабрыкі, шмат у ёй дзір акуратна заплеценых. Але гэтае змаганне паміж зладзеямі і вахцёрамі адбывалася, відаць, тады, калі з фабрыкі можна было нешта вынесці. Цяпер хіба ўжо не надта каму цікава туды і заглядаць, бо ў адным месцы вялікая прорва ў агароджы, павалены там апорны бетонны слуп, аднак сляды там не абутку, толькі капыт...

У лесе, паміж фабрыкай і горадам, распаложаны невялікі вадаём, пабудаваны ў геркаўскі час. Ён адметны тым, што пасярэдзіне яго збудаваны вялікі памост на палях — заміж пляжа. У пушчы шмат высечаных дзялянак: пад пілу — па пяньках відаць — пайшлі там магутныя сосны.

Навакольныя вёскі — Чорная-Вёска-Касцельная, Немчын, Замчыск — лічацца цэнтрамі народнага рукадзелля; на гэта паказваюць шматлікія прыдарожныя этнаграфічныя ўказальнікі. Дарэчы, на гэта паказвае і тамашняя тапанімія: Рудаўка, Сітаўка, Сіткова, Праслаўка, Лубянка...

Каля Хмельніка заўважыў я мужчыну, які прыглядаўся вярбовым коцікам. Прывітаўся я з ім заўвагай, што ўжо вясна наступае, сярод студзеня. Але ён мяне ашарашыў яшчэ большым жартам, паведамляючы, што выбраўся ў лес, бо людзі сталі гаварыць, што яшчэ лес не прамарозіўся і паказваюцца грыбы...

Побач дарог, па якіх я прайшоўся, ёсць і канкрэтныя доказы народнага там рукадзелля ў выглядзе драўляных слупоў-капліччак. Праўда, выкананы яны даволі даўно, бо шмат з іх ужо пахілілася, з некаторых выпалі фігуркі святых, пакліканых выканаўцамі для засцярогі ад нячыстых сіл.

Каля Замчыска спадзяваўся я пабачыць нейкае гарадзішча, бо такое пазначана на мапе. Аднак у пазначаным месцы нічога не было відаць, затое каля кіламетра далей, каля Падзамчыска, высіцца выразны ландшафтны аб’ект, вельмі падобны на тыя, што за падбельскімі Гацькамі. Цалкам магчыма, што ў сівую даўніну быў там, як у Гацьках ці недалёкім ад Кракава Страдаве, нейкі цэнтр грамадскага жыцця.




Магіла ксяндза Яна Семашкевіча

Заглянуў я ў Бомблю, да тамашняга касцёла, у тое месца, дзе калісь пробашчам служыў ксёндз Ян Семашкевіч, беларускі паэт, які выступаў пад літаратурным псеўданімам Янка Быліна. Перад касцёлам ягоная магіла...

Пра Яна Семашкевіча нашы чытачы маглі нядаўна прачытаць тое, што расказала Лена Глагоўская ў час канферэнцыі, праведзенай у снежні ў Міхалове. Аднак я хачу да таго дадаць і свае пяць грошаў. Менавіта намагільнік у Бомблі мае яшчэ і свой дублікат у Клюшчанах на Астравеччыне, а больш трапна кажучы — на Віленшчыне, на радзіме ксяндза-паэта...

Ян Семашкевіч на Беласточчыне адчуваў сябе няёмка, пра што пісаў свайму шчыраму сябру Уладзіславу Талочку. З Міхалова ў кастрычніку 1939 года ён пісаў: „... dawiedaúsia, što Wy úžo ú Wilni — ščaśliwy! Jakža ja Wam zawiduju, zdajecca na skrydłach lacieúby tudy, ani skrydłaú adnak nia maju, ani tak jechać nie mahu”. А крышку пазней: „Moje życie, jeśli to można nazwać życiem, tu takie szare”. Гэта было ў даваенны час, а пасля вайны ён стаў хадайнічаць за перавод яго ў нейкую парафію на Вернутых землях, мабыць спадзяючыся, што там сустрэне нейкіх сваіх землякоў, выхадцаў з Віленшчыны.

Душа Яна Семашкевіча рвалася на ягоную радзіму — там быў ягоны рай. Намагільнік у Бомблі быў для цела, для душы ж — у Клюшчанах. Так як Юзаф Пілсудскі загадаў пахаваць сваё сэрца ў сваім раю — у Вільні, гэтак жа і Ян Семашкевіч, іншы ўраджэнец Віленшчыны, захацеў душою вярнуцца туды, куды „на скрыдлах ляцеў бы”. Нас, ураджэнцаў Беласточчыны, выхаваных на гімне гэтай зямлі аўтарства Віктара Шведа, не павінна здзіўляць цяга да месца, што заўсёды „жыве ў глыбі грудзей”...

Парафія ў Бомблі атрымала назву Мар’янова і, здаецца, ніхто дакладна не ведае, адкуль тая назва там паявілася; ёсць нават здагадка, што так назвалі Бомблю саветы, аднак кур’ёзна меркаваць, што следам за імі пайшла і касцельная адміністрацыя. У мяне зусім сваё меркаванне пра этымалогію гэтай нечаканай назвы; магчыма, што яно занадта смелае. Лена Глагоўская так напісала пра пачаткі гэтай парафіі: „Кс. Ян Семашкевіч спярша жыў у спадарства Мар’янны і Валяр’яна Клёзаў у Пшэслаўцы, потым у іх суседзяў, кіруючы адначасова заканчэньнем пабудовы касьцёла. 29 верасьня 1946 г. кс. Адам Абрамовіч, пробашч парафіі сьв. Роха ў Беластоку асьвяціў касьцёл Беззаганнага Сэрца Марыі ў Бомблі. Ва ўрачыстасьці ўдзельнічала таксама місія з Гарадка з кс. Мар’янам Яцэвічам. За згодай арцыбіскупа і кс. Яна Семашкевіча ксёндз-місіянер назваў парафію Мар’янова”. Ці не ад імя гаспадыні пайшла і назва парафіі?..

Яшчэ можа адна здагадка пра назначэнне Яна Семашкевіча ў Бомблю дзеля завяршэння пабудовы тамашняга касцёла. Ксёндз Ян быў усебакова таленавітым чалавекам: ён быў не толькі паэтам, але і выдатным музыкам і лекарам. Быў таксама і будаўніком. Як паведамляе „Tygodnik Wileńszczyzny” з 2006 года, „ks. Jan Siemaszkiewicz zbudował w Duksztach piękną plebanię”. Сёння ў Бомблі стаіць іншы касцёл, завершаны ў 1990 годзе паводле мадэрнага дызайну. Касцёл, пабудаваны пры Яне Семашкевічу паводле народнага дызайну, гадам раней быў перанесены ў падбеластоцкую Грабоўку.

*К целу сваяму яе моцна прыжаў бы*
*Ды ўцешыў бы сэрца свае.*

*Зоркі зіхцяць у бясконцай прасторы,*
*Нам іх усіх не злічыць,*
*Як тыя рыбкі, што плаваюць у моры,*
*Каторых не можам злавіць.*



Мікалай ЛУК’ЯНЮК

## Трывога

*Калі ў людзей трывога,*
*Усе звяртаюцца да Бога,*
*А калі ў шчасці пражываюць,*
*Тады пра Бога забываюць!*
*За грош у царкве насмуродзіць,*
*Для вошы ён аброць наложыць,*
*Гатоў яе ў Маскву загнаць,*
*Каб у ёй Пуціна спаткаць!*
*Вось якія цяпер людзі:*
*Самі пад сябе набрудзяць,*
*А няма каму прыбраць —*
*Будуць так у брудзе спаць.*
*Улада аб тым добра знае:*
*Сама бруд той утварае,*
*А не хоча нам прызнацца:*
*Будуць усе з яе смяяцца.*



Мартына ЛЕАНЕЎСКАЯ

## Старыя

*Бяру цябе за руку,*
*ідзем на прагулку.*
*Усміхаемся да шчаслівых людзей.*
*Размаўляем,*
*На хвілінку прыстанем.*
*— Чуеш музыку?*
*І калышаш мяне ў такт*
*іграння вулічнага музыкі.*
*Павернем у гэтую вулічку.*
*— Яна крывая і цёмная? Нічога.*
*Трымайся мяне моцна,*
*ужо бачу бляск горада.*
*Абнятыя ўпол*
*(хоць ты кульгаеш на левую нагу*
*і наша краса прамінула),*
*вяртаемся дадому.*



Кацярына ГРЫГАРУК

## Мая мара

*Дзе яго збудаваць? За дарогай?*
*Каля вады? А можа за клуняй?*
*Вялікі, ці малы?*
*Драўляны, а, можа, мураваны?*
*Высокі? Нізкі?*
*З агародчыкам, ці без яго?*
*НЯВАЖНА, дзе ён будзе стаяць!*
*НЯВАЖНА, які будзе ён!*
*НЯВАЖНА, ці з агародчыкам!*
*ВАЖНА тое, ці там*
*будзеш жыць адзін, ці з кімсьці,*
*каго кахаеш.*

# *Гагатуха на Радыё Рацыя*



*Ужо сам званок з Трасцянкі быў як жартоўны абрад Гагатухі. Усё там перавярнулася дагары нагамі. Вось цёткі і дзядзькі, пакаленне, якое павінна назіраць за старым парадкам, даглядаць свае брамкі і пільнаваць, каб моладзь не рабіла фокусаў і жартаў, пазванілі на Радыё Рацыя з віншаваннямі:*

*— Мы хацелі б прывітаць нашую моладзёж і пажадаць ім усяго найлепшага, — не скрывалі яны радасці, — за тое, што яны не паляніліся і паздымалі ў нас брамкі!*

*Гэты званок прамаўляў як рапарт-справаздача рэдактарам, якія ад пачатку навагодняй перадачы, пры актыўным удзеле слухачоў, намаўлялі „ісці ў шкоду". Вельмі аўтарытэтна ў гэтай справе выказаўся лістаноша Яраслаў з Чыжоў (вядомы паклоннікам „Падляшскага канцэрта пажаданняў"). Ён адразу адкінуў стратэгію наракання і вызначыў рамкі прыстойнасці гульні:*

*— Добрая забава тады, калі маладыя маладым жарты робяць, — сказаў, — але калі хто хавае брамку старэнькай бабульцы, гэта не файна і не смешна...*

*Спадар Яраслаў спаслаўся на вечнасць гагатушных абрадаў:*

*— У нас тое было, ёсць і будзе! — заявіў з упэўненасцю на дзвесце працэнтаў, а пасля назваў жывыя прыклады. У раёне, які сам абслугоўвае, а гэта Гайнаўка і наваколле, яшчэ ў ліпені сустракае брамкі замацаваныя ланцугамі.*

*Асобная ніша была адведзена гаспадыням, якія дзяліліся са слухачамі рэцэптамі на бульбяную кішку. Марыя Ахрымюк з Гайнаўкі раіла паспрабаваць кішку з бульбяной начынкай, акрашанай смажанымі апенькамі з цыбулькай. У Беластоку раілі пакаштаваць кішкі з тлустымі скварачкамі. Хтосьці прыгатаваў куццю са скваркамі і смажаную свяжынку з праўдзівым агурком з бочкі. Пасля восьмай вечара, ужо „павячэраўшы", пачалі калядаваць. На першы агонь пайшлі жанчынкі з глыбінкі. У гэтай справе, як у навагодняй кашы, усё з усім перамяшалася. Запамяталіся Аня і Дарота з Саколкі, якія калядавалі па-ўкраінску. І Машчона-Панская, адкуль пазваніла дзіця і заспявала падляшскі варыянт калядкі „Гэн высоко в сінім нэбі". Хлапчук з Сямятыччыны адказваў на пытанні па-свойму.*

*У ноч з 13 на 14 снежня загаварылі па-беларуску нашы войты, бурмістры, старасты. Мяне асабіста ўразіла дасканалая беларушчына гайнаўскага старасты Уладзіміра Пятрочука. Прыгожай беларушчынай бліснуў войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк. Спантанныя і цёплыя атрымаліся пажаданні ў Вольгі Рыгаровіч (войт Гайнаўскай гміны), Міколы Павільча (войт Нараўчанскай гміны) і Веславa Кулешы (войт Гарадоцкай гміны). Нарва ўразіла арыгінальнасцю пажаданняў, якія чыталі „па ролях" старшыня Рады гміны Эва Урбановіч і войт Андрэй Плясковіч. Таксама па-беларуску віталі слухачоў Радыё Рацыя Пятро Божка (намеснік бельскага старасты), Пятро Сэльвесюк (войт Арлянскай гміны), Юры Шыкула (войт Чаромхаўскай гміны), Раіса Рацкая (войт Бельскай гміны), Лявон Малашэўскі (войт Дубіцкай гміны). Сапраўдны клас паказаў бурмістр Гайнаўкі Ежы Сірак, які як адзіны з ліку чыноўнікаў-палякаў павіншаваў слухачоў і сваіх жыхароў па-беларуску!*

*Жыццярадасны і патрыятычны характар мелі пажаданні ад бацюшкі Марка Якімюка з Чыжоў. Святар зачытаў патрыятычны верш, з якога проста аж „залунаў" бел-чырвона-белы сцяг:*

*— Не забудзьма што мы — беларусы! — гаварыў пастыр.*

*Пажаданні айца Марка, якія гучэлі пад поўнач, здаецца збілі з панталыку нават вядучых. Замест пайсці за прыкладам і паставіць адразу песню кшталту „Люблю наш край, старонку гэту", апошняя хвіліна да поўначы запоўніла расейская песенька пра дурачку-дзяўчынку, якая спачатку дазволіла, а пасля шкадавала („Вінавата не я!").*

*У гэты момант мне падумалася, што гагатушная гульня ўцякла з-пад кантролю і спрацаваў якісь фокус...*

*Пасля поўначы зноў было дастойна (прамаўляў старшыня Радыё Рацыя Яўген Вапа), весела, эмпатычна і святочна. Канцэрт цягнуўся як вясковае вяселле, два дні. Пасля начных гульбішчаў і „цыркаў" у пятніцу (канцэрт пачаўся з шасці гадзін вечара і іграў да пяці раніцы), у суботу наладзілі яшчэ „паправіны". Людзі званілі і навагодняй вясялосцю і шчасцем дзякавалі за незабыўны вечар. На першым месцы, сярод тысячаў пажаданняў з цэлага свету, апынуўся Беласток. Гэта нават здзіўляла. У квартале, дзе я жыву, ніхто не гуляў і не скандаліў, не страляў і не калядаваў. Яшчэ больш дзіўныя і нечаканыя інфармацыі даходзілі з глыбінкі. Калі я раніцай пазваніла ў сваю Кутлоўку, там расказалі пра нейкіх незнаёмцаў, якія прыперліся з іншай мясціны, каб паздымаць у вёсцы брамкі. Палову вёскі „пераставілі", а другой не паспелі. Іх намецілі і доўга ганялі па палях!*

*Ну, так!*

*Пад уплывам пачутага мне схацелася пазваніць на Радыё Рацыя і павіншаваць, як у Трасцянцы, што пайшлі ў „шкоду" і на міг ажывілі „тое, што ў нас заўсёды было". І як усе, падзякаваць Гандзі Шайкоўскай, Валі Лаеўскай, Зміцеру Косціну і Кастусю Бандаруку за найлепшую ў свеце Гагатуху. Жыве Радыё Рацыя!*

***Ганна КАНДРАЦЮК***




Вынаходніцтва заходняй масавай культуры — коміксы — трывала заняло сваё месца ў дзіцячых часопісах па ўсім свеце. Не прамінулі яны і беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак. Праўда, уласна беларускае слова ў гэтых коміксах гучыць не надта часта. Мноства сусветнавядомых мультыплікацыйных серыялаў, створаных па коміксах, што прыцягваюць увагу дзяцей у розных краінах, не маюць беларускамоўных версій. Сітуацыя зразумелая — беларускія дзяржаўныя выдавецтвы не займаюцца такімі „дробязямі", як пераклад коміксаў, і спадзявацца застаецца толькі на прыватную ініцыятыву. І такая ўрэшце з'явілася і займела назву Comicsby.

Сайт перакладзеных на беларускую мову замежных коміксаў месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://comicsby.ucoz.com. Выгляд яго галоўнай старонкі, якая мусьці называецца „стартавай", не надта прыцягальны для вока. Пры заходзе на яе адразу ўзнікае рэклама, якая займае ці не траціну цэлага выяўлення. Каб пабачыць Comicsby, гэтую рэкламу трэба закрываць, што патрабуе ад карыстальніка дадатковых рухаў і стварае пэўныя незручнасці. Магчыма, гэтыя праблемы з'яўляюцца праблемамі развіцця сайта, бо з'явіўся ён у толькі што надышоўшым годзе.

На першай, стартавай, старонцы мы можам убачыць тыя сусветнавядомыя коміксы, якія ўжо перакладзены на беларускую мову. Гэта расповеды пра чарапашак-ніндзя. Пакуль сайт утрымлівае ўсяго тры такія выданні, якія можна спампаваць і раздрукаваць. Хочацца спадзявацца, што гэта толькі пачатак, і стваральнікі сайта не закінуць на тым сваю справу, толькі будуць працягваць яе, напаўняючы беларускамоўную дзіцячую літаратуру вядомымі па ўсім свеце коміксамі.

„Comicsby — гэта сайт перакладаў коміксаў на беларускую мову, — так тлумачаць функцыю партала яго невядомыя стваральнікі ў рубрыцы „Аб праекце". — Будзе цікава, калі вы цікавіцеся комікс-культурай, і маеце намер чытаць па-беларуску або толькі вывучаеце мову. Таксама, не хаваем намераў рэалізацыі больш глабальнага памеру — адраджэнне і распаўсюд беларускай мовы ў Сеціве. На нашым сайце вы знойдзеце пераклады на сучасныя і найбольш вядомыя коміксы амерыканскіх выдавецтваў Marvel, DC Comics, Icon, IDW, Dark Horse, Vertigo і іншых. Аўтарскія правы на ідэі, малюнкі, назвы і коміксы належаць іх стваральнікам. Пераклады — суцэльна нашы".

Праўда, не зусім зразумела, з якой мовы робяцца пераклады — з арыгінала ці з рускай? На сайце пра гэта не распавядаецца. Затое на сайце падаюцца цікавыя звесткі аб тым, што такое хостынг Mediafire і як з яго можна спампаваць беларускамоўныя коміксы, колькі гэта каштуе, і якія камп'ютарныя праграмы варта мець, каб прачытаць спампаванае. Аб гэтым распавядаецца на старонцы FAQ (Частыя пытанні).

Старонка „Артыкулы", якая з'яўляецца таксама „Архівам навін", змяшчае інфармацыю аб сусветнавядомых чарапашках-мутантах і аб амерыканскай выдавецкай агенцыі IDW Publishing. Дарэчы, першы артыкул будзе вельмі цікавы тым дзецям, якія захоплены развіццём падзей у жыцці чарапашак — герояў коміксаў.

На сайце пакуль не надта многа рубрык і многія з іх яшчэ не змяшчаюць аніякай інфармацыі. Але гэта, як кажуць, справа наджыўная, і, магчыма, у недалёкім часе мы ўбачым беларускамоўныя пераклады коміксаў на паліцах кнігарняў і кіёскаў.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Скарбы Беларусі

### Забытая слава Замаслава

Мала хто з беларусаў бываў у мясцовасці Замаслава і мала хто ведае пра знакаміты мясцовы палац. Вёска, якая цяпер называецца Жамыслаўль, ляжыць удалечыні ад асноўных турыстычных і транзітных шляхоў. Размешчана яна на ўскрайку сучаснага Івейскага раёна на сумежжы з Літвой. Даехаць сюды можна дзвюма рознымі і аднолькава кепскімі аўтадарогамі — праз Суботнікі альбо Трабы. У адну з сяброўскіх краязнаўчых вандровак мы дабраліся туды даждж ом кепскай трабскай гравійкай.

Пра тое, што цяперашні Жамыслаўль правільна па-беларуску называць як „Замаслава" расказаў мне Зянон Пазьняк, які паходзіць з суседніх Суботнікаў. Прынамсі так яго называлі старэйшыя людзі, але з цягам часу адбылася змена. А яшчэ раней мясцовасць увогуле называлася іначай — Кандрацішкі.

Замаслава размешчана ўздоўж рэчкі Гаўя і практычна зліваецца з іншай вёсачкай — Шаркуці. Пакручастай стужкай Гаўя дзеліць Замаслава на дзве часткі. Пры пабудове ў 1953 годзе гідраэлектрастанцыі ўтварылася маляўнічае возера. На беразе яго і стаіць знакаміты некалі палац Умястоўскіх, збудаваны каля 130 гадоў таму па ўзоры варшаўскіх Лазенак. Маршалак Якуб Умястоўскі стаў уладальнікам маёнтка ў 1805 годзе. Ён перанёс сюды з Клявіцы сваю рэзідэнцыю. Далейшае развіццё маёнтак зазнаў пры яго малодшым сыне — Казіміру. Гэты Умястоўскі быў сапраўдным гаспадаром, да ўсяго эстэтам і чалавекам шырокіх інтарэсаў — акрамя сядзібы былі збудаваны аранжарэя і вялікія стайні ды валоўні. Толькі выязных коней гадавалася паўсотні. Скупляў маршалак і навакольныя землі і фальваркі. Пасля яго раптоўнай смерці ў 1863 годзе гаспадарыць стала жонка Юзэфа. Пры ёй драўляны палац быў разабраны, а на яго месцы паўстаў мураваны. Тады ж была збудавана капліца па дарозе на Суботнікі. Шмат увагі графіня надавала парку і пасадцы дрэў пры дарогах. Пасля таго як яна памерла ў Вільні маёнтак пераняў яе сын Уладзіслаў — апошні з дынастыі Умястоўскіх. Гэта быў чалавек шырокага культурнага дыяпазону. Ён шмат вандраваў па Еўропе, сябраваў са славутымі французскімі пісьменнікамі — бацькам і сынам Дзюма. Не дзіва, што Уладзіслаў працягваў укараняць у сваёй рэзідэнцыі еўрапейскія навацыі, пры ім было завершана будаванне палаца, багата і густоўна аформлены інтэр'еры. З'явілася і новая ліпавая алея. Гэтыя прысады зберагліся да нашых дзён і цешаць вока сваімі зялёнымі шатамі. Рэзідэнцыя на беразе разгалінаванай Гаўі была такой прыгожай, што сучаснікі называлі яе замаслаўскай Венецыяй. Сюды прыязджала шмат замежнікаў, якіх вабіла не толькі прырода, але і багатая бібліятэка, мажлівасць рознага адпачынку. Так, у парку былі зроблены пляцоўкі для тэніса і кракета. Пры сядзібе дзеяла і эфектыўная рознабаковая гаспадарка, якую вялі лепшыя аграномы Еўропы.

XX стагоддзе прынесла гэтаму чароўнаму куточку сапраўдныя бедствы. Замаслаўскі палац быў разрабаваны кайзераўцамі ў першую сусветную вайну, далей было не лепей. Прыйшла парцэляцыя былых буйных маёнткаў і апошняя гаспадыня Яніна Умястоўская стварыла са сваіх уладанняў фундацыю і аддала яе на асветніцкія мэты Віленскаму ўніверсітэту. Потым прыйшла яшчэ адна вайна. У савецкі час перад палацам пастаўлены быў помнік савецкаму салдату ў выглядзе сапраўднага монстра. Сам сядзібны комплекс спакваля разбураўся.

Апошнім часам на тэрыторыі сядзібы і вакол яе пачаліся падрыхтоўчыя працы да аднаўлення. І магчыма Замаслава яшчэ адродзіць сваю былую славу.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

1 ☞працяг

## Гайнаўка — цэнтр калядавання

(конкурсная камісія прызначыла вылучэнне).

— Мы хочам паказаць клімат даўняга калядавання і таму падабралі традыцыйныя калядкі — „Рожджэство Христово”, „Там по прызбонці” і „Учора з вэчора” і выконваем іх з даўнім напевам і пад наш традыцыйны музычны інструмент — скрыпку, бо яшчэ не прыдбалі дуд, — сказала апякунка „Жэўжыкаў” Анна Фіёнік, настаўніца з бельскай „тройкі” і заадно мастацкі кіраўнік калектыву „Жэмэрва” са Студзіводаў. — Сёлета мы з „Жэмэрвой” калядавалі па вёсках. Былі ў Галадах, Крывой і Грыневічах, бо хацелі правесці святы ў іншым чым гарадскі клімаце. Нашыя жэўжыкі калядавалі асобна, у сваіх бабуль.

Бельскія белгімназісты і белліцэісты не калядавалі па хатах і таму з радасцю выступілі на гайнаўскай сцэне. Іх спеў быў на высокім мастацкім узроўні, а рыхтавала іх настаўніца музыкі Іаанна Хількевіч.

— Мы займаемся з настаўніцай Іааннай Хількевіч ад пачатку гэтага школьнага года. Дырэктар БДК Сяргей Лукашук не вядзе ўжо ў нашай школе калектыву „Дзявочыя ноткі”. Паколькі цяперашні склад калектыву новы, хочам прыдумаць сабе новую назву. Былі ўжо розныя прапановы, але не выбралі яшчэ такой, якая спадабалася б нам, — заявілі бельскія белліцэісткі.

— Мы падабралі рэпертуар так, каб атрымаўся гарманічны спеў і ўдала можна было запрэзентаваць вакальныя магчымасці вучняў. З калектывам „Вянок” я займаюся ўжо восьмы год, а з дзявочым гуртом з белліцэя — першы год. Хочам паказаць крыху іншы стыль і ўжо сёння спявалі на 4 галасы, — сказала настаўніца Іаанна Хількевіч.

— Мы вельмі эмацыянальна ўспрымаем сённяшні выступ і хацелі як найлепш запрэзентавацца. Спадабаліся нам таксама выступы іншых калектываў, — гаварылі белгімназісткі з бельскай „тройкі”, з якімі выступаў таксама хлопец.

Меладычна і прыгожа заспявалі калядкі вучні з Гайнаўскага белліцэя, хаця ад пачатку школьнага года выступаюць у моцна аднаўленым складзе. У „Знічцы” рашыліся спяваць трох белліцэістаў.

— Упершыню ў нас у „Знічцы” выступаюць хлопцы. У іх добрыя галасы і дзякуючы гэтаму спеў у выкананні нашага калектыву будзе цікавейшым, — сказала апякунка „Знічкі” Бажэна Ляўчук. — Мы падабралі калядкі прыстасаваныя да вакальных магчымасцей моцна аднаўленага калектыву.

— Я адчуваў патрэбу выступаць з калектывам, спяваць і таму запісаўся да „Знічкі”, — гаварыў Дам’ян Маркевіч.

Патрэба спявання прывяла ў „Знічку” таксама Матэвуша Харкевіча. Зараз у калектыве Гайнаўскага белліцэя займаецца 12 дзяўчат і 3 хлопцаў.

У гэтым годзе побач дашкольнікаў, вучняў, хароў праваслаўных прыходаў і каляднікаў ад асяродкаў культуры выступалі таксама незгуртаваныя каляднікі. Ва ўсіх конкурсных катэгорыях калядаванне было на свой спосаб цікавым, хаця, канешне, рознілася манерай спеву. Інакш калядавалі харысты з дырыжорамі, а інакш каляднікі, апранутыя ў традыцыйную вопратку, якія прэзентавалі традыцыйныя, простыя калядкі. Ім важнейшай справай было вяртанне да традыцый, а не віртуознасць спеву. Цікавымі якраз для публікі „Гайнаўскіх сустрэч з праваслаўнай калядкай” былі выступы старэйшых жанчын з вакальнага калектыву з вёскі Чаромхі і з калектыву „Вульчанкі” з Вулькі-Тэрахоўскай. Жанчыны з Чаромхаўскай гміны паказалі традыцыйнае калядаванне, вядомае ім з дзяцінства і маладосці. Шкада толькі, што ў гэтым годзе не прыехалі каляднікі з Беларусі. Можа ў наступным годзе атрымаецца ў Гайнаўцы калядаванне ў міжнароднай кампаніі.

„Вянок” з бельскай „тройкі”

Удала выступіла абноўленая „Знічка” з Гайнаўскага белліцэя, у якой паявіліся тры мужчынскія галасы

## Адгаданка

1. большы за мястэчка, 2. паўднёвасербскі горад на Нішаве, 3. царкоўны столік пад абразы і кнігі, 4. венская рака, 5. бітва, 6. покрыўка пасудзіны, 7. рака ў Кляшчэлях, 8. невялікая рыба сямейства акунёвых (*Gymnocephalus cernuus*), 9. рэлігійны навічок, 10. рэшткі разбуранага збудавання, 11. Адамава спакушальніца, 12. англійскі пан, 13. алімпійскі горад на паўднёвым захадзе Канады, 14. расійская мера вагі ў 16,38 кілаграма, 15. хатняя жывёліна, якую не рэкамендуецца купляць у мяшку, 16. балгарскі порт, 17. раённы горад на Гродзеншчыне на рацэ Івенка, 18. вялікі горад на Свіслачы.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | | | 2 | 3 | | | 4 |
| | | | 5 | | | | 6 | | | | | |
| | | | 7 | | | | | | | | 8 | |
| | | | | | 9 | | | | 10 | | | |
| | | | 11 | 12 | | | | | | | | |
| 13 | | 14 | | | | 15 | 16 | 17 | | 18 | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — нямецкая пагаворка. (ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 51 нумара**

Суп, пі, хота, джаз, якасць, волат, Бася, рарытэт, Лот, юда, ты, нос, Чыта, чукча, ціс, Яік, бург, яд, усмешка, варыянт, юрта, штылет, султан, ручнік, лазня, рэйх.

Рашэнне: **Прыходзіць як вораг люты, ноччу ці сярод дня, сытая і абутая, з усмешкаю штучнай хлусня**.

## 22.01 — 28.01

**(22.03. — 20.04.)** 21-25.01. прагулкі па крамах прынясуць добрыя здабычы. Новыя знаёмствы. 23.01. пераломны дзень — можаш пазнаёміцца з асобай на сяброўства на ўсё жыццё. Ад 24.01. старыя праблемы вернуцца як бумеранг. Другая палова тыдня больш прадуктыўная.

**(21.04. — 21.05.)** Знакаміты час на сустрэчы з сябрамі. Будзеш вырашаць справы малазнаёмых. Можаш адкрыць сваё сапраўднае зацікаўленне. 22-26.01. татальна разлянівішся, нічога не паспееш зрабіць добра і на час. Маладзік Месяца 23.01. прынясе табе салідную ўзнагароду за тваю цяжкую працу. Дома выкінь непатрэбшчыну.

**(22.05. — 22.06.)** 21-25.01. выдатна справішся ў інтарэсах. 25-29.01. надакучыць табе горшы настрой. Старайся актыўна не ўключацца ў дыскусіі, будзь цярплівым і справядлівым. Можа паявіцца нагода на перамену прафесійнай сітуацыі, ды спакойна назірай за ходам падзей.

**(23.06. — 23.07.)** Вельмі добра адчуеш сябе на працоўным месцы. Хапай нагоды і не бойся змен — пойдуць яны табе для дабра. 23.01. пачнеш дрыжаць за сваю фінансавую будучыню (непатрэбна!). Ад таго, чаго даб’ешся ў гэтым тыдні, будзе залежаць твая будучыня. Здароўе — сярэдняе; могуць дакучаць дыхальныя шляхі.

**(24.07. — 23.08.)** Да 24.01. можаш пераацаніць свае магчымасці. Можаш сустрэць чалавека, які адпавядае ўсім тваім крытэрыям — кампаньёна, сябра ці каханага. У сераду адпачні і аднаві свае сілы. У пятніцу можа адбыцца падзея, якая адкрые перад табою новыя магчымасці кар’ернага росту.

**(24.08. — 23.09.)** Добрая форма. Будзеш адважны і адкрыты. Найлепшымі будуць самыя простыя задумы. У крамы хадзі з калькулятарам. Вырашай самастойна. У апошнія дні студзеня могуць нагрувасціцца праблемы, якім не дасі рады. Ды зможаш знайсці разумнага дарадчыка!

**(24.09. — 23.10.)** Многа падарожжаў і кантактаў; здарова стомішся! Будзеш разлічваць выключна на свае сілы. Тыя перамены, якія адбудуцца, паўплываюць на тваё жыццё на шмат месяцаў наперад. У панядзелак займіся даўно адкладзенай справай, да серады праца павінна пайсці поўным ходам. Не душы з сябе гневу, бо кепскія эмоцыі аслабяць твой імунітэт.

**(24.10. — 22.11.)** Маладзік Месяца з 23.01. адыме табе энергію, таму як найбольш адпачывай. Аж да 29.01. ты міратворац і знакаміты дарадчык. Можаш перамяніць сваіх працаўнікоў у саюзнікаў (дыпламатычна!). У пары магчымыя буры з маланкамі. Самотныя Скарпіёны рушаць на любоўнае паляванне. У пятніцу не вер плёткам, каб на іх не асноўваць несправядлівых высноў.

**(23.11. — 22.12.)** Можаш наладзіць цікавае супрацоўніцтва, падпісаць важнае пагадненне. Засяродзься на дзецях і старэйшых асобах, якім трэба дапамагчы. Зоркі напоўняць цябе пазітыўнай энергіяй. Да 24.01. ад кагосьці можаш дастаць нагоняй. Агульна паспяховы тыдзень, толькі не расслабляйся. У чацвер пільнуй свой язык. З 27.01. (да 31.01.) не дайся ўцягнуць у ніякія гульні.

**(23.12. — 20.01.)** Увесь тыдзень павінен быць удалы. Можаш вырашыць набалелыя пытанні. Ад тваёй актыўнасці залежаць будучыя фінансавыя прыбыткі ў будучыні. Свабодны час прысвяці рэалізацыі сваіх асабістых задум і творчых амбіцый. З 25.01. (да 29.01.) няхоцькі можаш уваліцца ў праблемы.

**(21.01. — 19.02.)** Перапаўняць цябе будуць творчыя ідэі, для рэалізацыі якіх пашукай аднадумцаў. Прыслухайся голасу інтуіцыі. Магчымае рашэнне ўсіх старых канфліктаў і дасягненне згоды. З 27.01. могуць паявіцца цікавыя прафесійныя прапановы.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Да 24.01. будзеш пераўвялічваць праблемы, будучы лішне нясмелы і хаваючы свае пазітыўныя рысы. Магчымыя перамены ў асабістых і прафесійных справах. Не будуй фантастычных планаў! У чацвер не ўдзельнічай у спрэчках і канфліктах — лепш адсядзіся на баку, справы вырашацца самі па сабе. З 26.01. (да 30.01.) не пагаджайся на ўсё!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.


Эва Гняздоўская

Фотарэпартаж Міры ЛУКШЫ

# І мы так спявайма, Хрыста праслаўляйма

*XIII Прэзентацыі калядных калектываў „Гвязда і калядка" адбыліся ў нядзелю 15 студзеня ў Гарнізонным клубе вайсковай часці № 3519 у Беластоку па вуліцы Кавалерыйскай, 70. Мерапрыемства арганізаванае Беларускім грамадска-культурным таварыствам фінансава падтрымалі Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі РП ды Культурны цэнтр Беларусі ў Варшаве. Выступіла амаль 500 выканаўцаў з усёй Беласточчыны.*







Супольна на сцэне дзеткі з прадшколляў н-р 14, 4 і 55 у Беластоку


„Асенні ліст" з Гарадка з Генадзем Шэметам



Махнатае з самай вялікай зоркай



„Антракт" з Бельска-Падляшскага


„Згодныя макі" з Райска


Частка „Нараўчан"



„Журавінкі" са Студзянак

ISSN 0546-1960